


# Рэгіянальная газета. Rh.by

ТэлетыДзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

6 сакавіка 2015 года №10 **(1036)**

## *Са святам, мілыя жанчыны!*




**Глядзіце відэа на сайце: Надзея Харашэвіч і Зінаіда Каханоўская гаворац пра сваіх мужоў** Шукайце 8 сакавіка

# Васіль Юркоўскі: 8 сакавіка аднакласнікі віншавалі дзяўчынак і мяне



Фота Настассі РОЎДЫ.

**Васіль Юркоўскі па звычцы адзначаць дзень нараджэння будзе сярод калег. На фота ён з доктарам Галінай Бараноўскай (першая злева) і медсёстрамі Інай Даўгаполавай і Наталляй Шаблыкай.**

**МАЛАДЗЕЧНА. 8 Сакавіка – свята ўсіх жанчын. А як адчуваюць сябе мужчыны, якім пашчасціла нарадзіцца ў гэты дзень?**

**Васіль Юркоўскі** працуе хірургам у дзіцячай паліклініцы. Пра свой дзень нараджэння кажа, што яму вельмі пашчасціла нарадзіцца 8 сакавіка. Хаця ў дзяцінстве з гэтым днём звязаныя і крыўдныя ўспаміны:

– Са святам 8 Сакавіка аднакласнікі віншавалі нашых дзяўчынак... і мяне. Таму нярэдка на паштоўцы з днём нараджэння ў мяне маглі быць мімозы і лічба 8. А потым яшчэ і на падарункі скідваліся, улічваючы мяне. Цяпер гэта смешна, а ў школе вельмі крыўдна было атрымаць у падарунак цюльпан або дзявочую касметыку.

Цяпер, прызнаецца Васіль, бачыць у сваім дні нараджэння толькі плюсы.

– Па-першае, ніхто не забываецца павіншаваць, а па-другое, мой дзень нараджэння – гэта жалезная адмазка ад надакучлівых паненак. Патлумачу: калі, напрыклад, 9 сакавіка мне тэлефануе чарговая сяброўка і кажа крыўдліва: "А чаму ты мяне на павіншаваў?" – я тады адказваю: "А ты мяне чаму не павіншавала?"

У сям'і ў Васіля таксама прынята спачатку віншаваць яго.

– Восьмага сакавіка, калі збіраюцца госці да мамы, у першую чаргу ўсё адно віншуюць мяне. Яна не крыўдзіцца. Хаця ў нас у сям'і атрымалася так, што сыны адабралі два святы ў мамы. Я нарадзіўся 8 сакавіка, а малодшы брат акурат на матулін дзень нараджэння.

У паліклініцы, дзе працуе Васіль Юркоўскі, 8 сакавіка, як кажуць ягоныя калегі-дактары, "паляну" накрываць будзе Васіль. І віншаванні ўсе ў першую чаргу яму.

– Як звычайна, на кожнай рабоце адно і тое ж, – пагаджаецца Васіль Юркоўскі.

**Наталля ТУР.**

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Міхаіл Гардон стаў ганаровым грамадзянінам

**МЯДЗЕЛ.** Ушанавалі яго 21 лютага на ўрачыстасці, прысвечанай 75-годдзю стварэння Мядзельскага раёна. **Міхаіл Гардон** – карэнны мядзелец, шмат ведае пра гісторыю горада. Усё яго жыццё звязанае з Мядзельшчынай. Ён – ветэран Вялікай Айчыннай вайны. Доўгі час узначальваў раённы Савет ветэранаў. Узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, Пашаны, іншымі ўзнагародамі. Раней званне "Ганаровы грамадзянін Мядзельскага раёна" прысвоілі Герою Сацыялістычнай Працы **Эдуарду Ціхаму**, народнаму мастаку Беларусі **Васілю Шаранговічу**, народнай артыстцы Беларусі **Марыі Захарэвіч.**

### Прадаюць білеты на Чэмпіянат свету па футзале

**МАЛАДЗЕЧНА.** Пачаўся продаж білетаў на два матчы, якія пройдуць у Маладзечне. Кошт аднаго складзе 50 000 рублёў. Білеты можна набыць на сайце www.ticketpro.by і ў касах горада. Таксама ў Маладзечне можна будзе набыць білеты на матчы, якія адбудуцца ў розных гарадах.

### Чакаецца зацьменне

20 сакавіка каля 13 гадзін жыхары Зямлі змогуць назіраць самае буйное за 16 гадоў поўнае сонечнае зацьменне, калі сонца амаль цалкам схаваецца за ценем Месяца. Яно працягнецца каля 2 хвілін 50 секунд.

**Аддзел інфармацыі.**

ПАМЯЦЬ

# У 26 год пайшоў з жыцця вілейскі актывіст Аляксей Лужынскі

**ВІЛЕЙКА. 1 сакавіка не стала аднаго з самых маладых і таленавітых людзей Вілейшчыны Аляксея Лужынскага.**

Краязнаўца, гісторык, кіраўнік суполкі "Волат", сябра Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры сышоў з жыцця ва ўзросце 26 год. Прычынай смерці сталі наступствы цяжкай хваробы, якая не давала спакою яму апошнія некалькі год.

Цяжка ўявіць сабе працу вілейскіх краязнаўцаў за апошнія некалькі год, не успомніўшы пра Аляксея. Найчасцей менавіта ён сам арганізоўваў вандроўкі, экскурсіі, музычныя кватэрнікі і шмат чаго іншага. Дзякуючы яму выдавалася газета "Волат", Вілейку наведвалі гісторыкі, пісьменнікі, музыкі, сярод якіх **Уладзімір Арлоў**, **Андрэй Хадановіч**, **Таццяна Беланогая**, **Алесь Памідораў**, **Алесь Дзянісаў** і шмат іншых.

Якуб, менавіта пад такім псеўданімам многія яго ведалі, кіраваў суполкай "Волат" не адзін год, займаўся выданнем часопіса "Волат", шматлікімі буклетамі і лістоўкамі, якія былі прысвечаныя героям Беларусі, знакавым месцам і падзеям.

Апошні праект, якім ён займаўся, быў прысвечаны 250-годдзю з дня нараджэння Міхала Агінскага. 7 лютага віляйчане змаглі паўдзельнічаць у экскурсіі Вілейка-Маладзечна-Залессе-Крэва, якую арганізаваў Аляксей, але з-за цяжкага стану здароў'я ён сам паехаць не змог.

Ён вельмі любіў свой родны край, сваю Беларусь. Ставіўся адмоўна, калі хтосьці планаваў з'ехаць адсюль. Ён разумеў, што, толькі жывучы на Вілейшчыне, можна зрабіць яе лепшай, таму заўсёды заставаўся верным сваёй Радзіме.

Аляксей цікавіўся многім. Таму развітацца з ім прыйшлі людзі рознага ўзросту і прафесій. Гісторыкі, музыкі, вандроўнікі, добрыя сябры, родныя і блізкія сабраліся 2 сакавіка, каб праводзіць гэтага выдатнага сына Вілейшчыны ў апошні шлях.

У Аляксея засталася жонка Эла і сын Верас.

**Сябры Таварыства аховы помнікаў і суполкі "Волат".**


Фота з архіва Дзяніса КАНЕШКІ.

**Аляксей Лужынскі быў краязнаўцам і грамадскім актывістам. Дзякуючы яму адбылося шмат змястоўных сустрэч віляйчан з творцамі.**

***Самыя шчырыя спачуванні родным і блізкім Аляксея выказвае калектыў "Рэгіянальнай газеты".***



ДА 20-ГОДДЗЯ "РГ"

## Вікенці Адамовіч пра "Рэгіянальную газету"

**Начальнік аддзела культуры Валожынскага райвыканкама Вікенці Адамовіч прызнаўся, што чытае "Рэгіянальную газету" з 2005 года:**

– Ужо 11 год я з'яўляюся чытачом вашай газеты. І магу сказаць адно: на любое хвалюючае пытанне можна знайсці адказ ў "Рэгіяналцы"!

Я як аматар агародаў заўсёды кіруюся вашым календаром садавода-агародніка. Ці, напрыклад, адключылі ў Валожыне аналагавае тэлебачанне. Што рабіць? Вядома, купляць "Рэгіянальную газету". Там ўжо будзе адказ на гэта пытанне. Вашы рэклама, гараскоп, экспрэс-апытанні – самыя надзённыя, самыя актуальныя, як гарачыя піражкі "з пылу з жару".

Для мяне вельмі важна і тое, што ваша газета піша пра Валожыншчыну. У газеце можна пачытаць матэрыялы як пра валожынцаў, так і матэрыялы саміх валожынцаў, якія друкуюцца ў вас.

Яшчэ адна старонка нашага сяброўства з газетай – гэта сумесны фестываль "Адна зямля".

"Рэгіянальная газета" аб'ядноўвае нашу зямлю і ўсіх землякоў. І за гэта ёй асаблівы дзякуй.

Гаворачы пра газету, не магу абмінуць тое, што выданне беларускамоўнае. У час, калі нават школ беларускамоўных засталося не так шмат, беларускамоўная газета жыве. Вы, паўтараючы запавет Багушэвіча, не пакідаеце і ўсім чытачам дапамагаеце не пакінуць мовы беларускай. І за гэта вам нізкі паклон!

А напярэдадні вашага юбілею хочацца сказаць, што слова друкаванае жыве і будзе жыць. Газеце жадаю вялікага плёну, доўгага жыцця і новых адкрыццяў.

А супрацоўнікам, і асабліва супрацоўніцам, ды і ўсім чытачкам, напярэдадні свята 8 Сакавіка жадаю: забывайце калі-нікалі, што вы кіраўніцы, станочніцы, журналісткі, а будзьце часцей проста жанчынамі, прыгожымі, пяшчотнымі, цудоўнымі і прывабнымі. Памятайце, што вы заўсёды можаце абаперціся на наша мужчынскае плячо. Мы вас любім і шануем.

***Са святам, жанчыны!***

***Са святам, "Рэгіянальная газета"!***

НАВІНЫ

## Зроблены ў Вілейцы даспех трапіў "на рэспубліку"

**ВІЛЕЙКА.** Навучэнец дзяржаўнага каледжа **Юры Новікаў** трапіў у лік пераможцаў абласнога этапу шостага рэспубліканскага конкурсу навукова-тэхнічнай творчасці вучнёўскай моладзі "ТэхнаІнтэлект".

Юры займаецца ў аб'яднанні па інтарэсах "Рыцарскі клуб "Паходня", якое працуе на базе каледжа пад кіраўніцтвам **Андрэя Арлоўскага.** Там хлопцы вывучаюць гісторыю рыцарскага ўзбраення і даспехаў, тэхналогію іх вытворчасці, распавяла педагог-арганізатар установы **Святлана Мацукевіч**.

На конкурс прадставілі сумесную працу творчага калектыву "Паходні" – рэканструкцыю латнага даспеху пачатку 15 стагоддзя.

– У клубе стварылі яго амаль год. Ён унікальны тым, што падобны даспех насілі знатныя рыцары, – расказаў юнак. – Было вельмі цікава працаваць над даспехам. Давялося і коўку асвоіць.

Юры займаецца ў "Паходні" з верасня мінулага года. Заняткі яму так падабаюцца, што ён і іншых запрашае далучацца.

– Гэта моцна захапляе – зрабіць даспех і выпрабоўваць на сабе. Увогуле, мне вельмі цікава больш даведвацца пра гісторыю, пра тое, што адбывалася на нашых землях раней.

Юрыю даверылі абаранаць праект на абласным этапе конкурсу. Праходзіў той 20 лютага ў Жодзіне. Юныя даследчыкі, мадэлісты-канструктары і архітэктары прадставілі свае працы ў 11 секцыях.

Юнак справіўся з абаронай паспяхова. А 10 сакавіка ў Мінску ён будзе ўдзельнічаць у рэспубліканскім этапе конкурсу.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Рэспубліканскі конкурс навукова-тэхнічнай творчасці навучэнскай моладзі "ТэхнаІнтэлект" праводзіцца з мэтай стварэння і развіцця эфектыўных формаў даследчага навучання, уключэння моладзі ў прафесійныя заняткі навукай. У конкурсе ўдзельнічаюць навучэнцы ва ўзросце 14-18 год, якія праявілі здольнасці ў мадэляванні, канструяванні і вырашэнні тэхнічных задач.


Фота з архіва Святланы МАЦУКЕВІЧ.

**Старанне, укладзенае віляйчанінам Андрэем Арлоўскім у працу над даспехам, журы ацаніла высока.**

## На рынку ў Маладзечне працавалі 18 гандлёвых павільёнаў з адзеннем

**МАЛАДЗЕЧНА.** 4 сакавіка, у сераду, у 10 гадзін раніцы на рынку райспажыўтаварыства працавалі 18 гандлёвых пунктаў, якія гандлююць адзеннем.

На большасці павільёнаў вісяць паперы з надпісам "выхадны", "адпачынак", "захварэла".

На маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства 758 гандлёвых месцаў, 350 дагавораў арэнды заключана паміж прадпрымальнікамі і адміністрацыяй.

## Дырэктару "Маладзечанскага водаканала" не працягнулі кантракт

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ад 25 лютага абавязкі дырэктара КУП "Маладзечанскі водаканал" выконвае галоўны інжынер **Мікалай Навіцкі.**

Былому дырэктару Станіславу Бакуну не працягнулі кантракт.

Пра гэта паведаміла начальнік кадрава-юрыдычнага бюро КУП "Маладзечанскі водаканал" **Наталля Субач.**

Станіслаў Бакун патлумачыў, што прычынай стаў выхад на пенсію.

**Галіна СІНІЦА**

## Ад 29 сакавіка пусцяць дадатковы цягнік, які будзе ісці праз Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цягнік эканом-класа Мінск-Гродна будзе ісці праз Маладзечна і Ліду.

Са станцыі Мінск-Пасажырскі цягнік будзе адпраўляцца ў 06:56. У Маладзечна ён будзе ў 08:12. У Гродне – у 12:06.

З Гродна на Мінск цягнік адпраўіцца ў 14:24. У 18:24 будзе ў Маладзечне. У Мінск прыбудзе ў 19:33.

**Паводле сайта Беларускай чыгункі.**

ІМПРЭЗЫ

## У Вілейцы ўпершыню пройдзе фэст "Гонару продкаў-2015"

**ВІЛЕЙКА. Намечаны ён на 3-5 ліпеня. Фэст "Гонару Продкаў-2015" пройдзе ў Ніжнім парку ў Вілейцы. Там плануюць збудаваць гарадзішча з замчышчам і сярэднявечным горадам.**

Асноўная ідэя фэсту – гістарычная рэканструкцыя культуры і ўмоў жыцця жыхароў Вялікага Княства Літоўскага і краін-суседзяў 11-16 стагоддзяў. Арганізатары фэсту – клуб гістарычнай рэканструкцыі "Паходня" з Вілейкі і аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Вілейскага райвыканкама пры падтрымцы Вілейскага каледжа.

На фэсце чакаецца каля трохсот удзельнікаў з Беларусі і Расіі, паведаміў кіраўнік клуба "Паходня" **Андрэй Арлоўскі**.

Гледачы змогуць пазнаёміцца з гісторыяй, культурай, побытам насельніцтва ВКЛ і яго суседзяў, убачыць сярэднявечныя ваенна-палявыя лагеры, стаць сведкамі рэканструкцый бітваў, турніраў лучнікаў і арбалетчыкаў. А таксама паўдзельнічаць у сярэднявечных гульнях і забавах, пазнаёміцца з рамёствамі, паслухаць этнічную музыку.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЭКАНОМІКА

# 2014 год быў складаны, сёлета будзе яшчэ цяжэй

**МАЛАДЗЕЧНА. Вынікі года па сацыяльна-эканамічным развіцці раёна за мінулы год прааналізавалі на чарговай сесіі Савета дэпутатаў у пятніцу, 27 лютага. У прэзідыуме присутнічалі прадстаўнікі Камітэта дзяржкантролю Мінскай вобласці.**

Старшыня райвыканкама **Аляксандр Яхнавец** у сваім дакладзе падкрэсліў, што ў 2014 годзе не ўсё атрымалася выканаць, што хацелі. Былі аб'ектыўныя прычыны. Але ён папрасіў не звальваць усё на іх, а прызнаць, што вялася недастатковая работа кадраў усіх узроўняў.

Вынікі па прамысловасці не дасягнулі ўзроўню 2013 года. Тры найбуйнешыя прадпрыемствы: чысцінская "Забудова", мясакамбінат "Вялес-Міт" і Маладзечанскі завод металаканструкцый, якія даюць палову валавой прадукцыі раёна, пацягнулі ўніз.

### Хлеб зарабілі, малако і мяса недапрацавалі

Па вытворчасці мяса і малака даведзеныя паказчыкі не выканалі. Затое ўраджайнасць збожжавых атрымалі, якой не было ў гісторыі раёна.

Пачала працу бальніца №2. Перавыканалі план па ўвядзенні жылля. Па школе-садку у 11-м мікрараёне сёлета павінны зрабіць праект.

Павінна запрацаваць і кацельня ў Радашкавічах, на якую выдаткоўваюць больш за 40 мільярдаў рублёў.

Павялічыліся падаткі ад малога і сярэдняга бізнесу. Многія прадпрыемствы маюць складанасці праз сітуацыю з валютай і рынкам РФ.

### Ці павысяць заробак, які затрымліваюць

Намеснік старшыні райвыканкама **Генадзь Актанаровіч** распавёў, што з 11 даведзеных паказчыкаў выканалі пяць.

"Вялес-Міт" не дабраў больш за сто мільярдаў рублёў, завод металаканструкцый – 171 мільярд. Актанаровіч падкрэсліў, што толькі адзінкі прадпрыемстваў прапісалі маркетынгавую стратэгію. Пераважна маркетынгам займаюцца кіраўнікі ці работнікі аддзела збыту, што не дазваляе якасна працаваць у гэтым кірунку. Эканаміст папярэдзіў, што 2015 год не будзе лягчэйшы, а яшчэ больш складаны.

Прадпрыемствы павінны працаваць над дыверсіфікацыяй рынку збыту: пашыраць асартымент, шукаць новых заказчыкаў з розных краін.

Сярэдні заробак – 5,4 мільёна рублёў. Запланавана, што ён перавысіць шэсць мільёнаў.

Сельская гаспадарка атрымала 2% рэнтабельнасці ад рэалізаванай прадукцыі. Але многім работнікам своечасова не плацяць заробак. Знешняя дэбіторская запазычанасць дзевяць мільярдаў рублёў, прагназуюць, што павялічыцца на чатыры мільярды.

Прадстаўнікі дзяржкантролю заўважылі, што наяўнасць запазычанасці – злачынства, а гаворка ідзе пра рост. Далі, што пачулі амбіцыйны прагноз павысіць сярэдні заробак, але якім чынам будуць дасягаць паказчыка, незразумела.

### Знізіце працэнт па крэдытах і дайце зарабіць

На сесіі Савета дэпутатаў выступіў дырэктар Маладзечанскага малочнага камбіната **Уладзімір Бобрык**.

Ён распавёў, што 91% экспартнай прадукцыі ідзе на Расійскую Федэрацыю. Таму ўсе праблемы расійскага рынку адбіліся і на камбінаце. З-за гэтага згубілі больш за пяць мільярдаў долараў. Праблем дадала неабходнасць штомесяц плаціць працэнты па крэдытах – да 15 мільярдаў рублёў.

Курсавая сітуацыя напрыканцы года і высокія працэнты крэдытаў паставілі камбінат у няпростае становішча.

– Мы павысілі цану для расійскага рынку, яны да павышэння былі не гатовыя, таму і атрымалася, што ёсць астаткі, – тлумачыць Бобрык.

Камбінат мае заказчыкаў у некалькіх краінах, але гэта малы працэнт. Расійскі рынак застаецца самым прывабным.

Але стаўку ў больш за 40% ніводнае прадпрыемства не вытрымае, упэўнены кіраўнік.

Бобрык падсумаваў, што неабходна знізіць стаўку па крэдытах і даць прадпрыемствам магчымасць зарабіць.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ЛІЧБА НУМАРА

**1 000 000**

*Столькі кветак вырасцілі да **8 Сакавіка** беларускія вытворцы кветкавай прадукцыі*

Паводле Галоўнага ўпраўлення спажывецкага рынку Мінскага гарвыканкама

Інфографіка Натассі РОЎДЫ.

| Курсы валют НБ РБ | 26.02 | 5.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 14 920,00 | **15 080,00** |
| Еўра | 16 970,00 | **16 840,00** |
| Злоты | 4 075,11 | **4 058,67** |
| Расійскі рубель | 239,00 | **242,00** |
| Грыўня | 445,37 | **580,00** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 4.03** | | |
| Еўра | 16770/17030 | **16700/16950** |
| Долар ЗША | 14800/15000 | **14950/15120** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 25.02 | 4.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 24800 | **24800** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39900 | **39900** |
| Селядзец, 1 кг | 42000 | **41300** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 105000 | **105000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13900 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13200** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 3900 | **3900** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7500 | **7500** |
| Капуста, 1 кг | 5800 | **5900** |
| Морква, 1 кг | 5900 | **5900** |
| Буракі, 1 кг | 6000 | **6500** |
| Лімоны, 1 кг | 26900 | **26900** |
| Апельсіны, 1 кг | 19500 | **19500** |
| Мандарыны, 1 кг | 23900 | **22800** |
| Памідоры, 1 кг | 29900 | **34900** |
| Агуркі, 1 кг | 33900 | **33900** |
| Перац, 1 кг | 43900 | **39900** |
| Вінаград, 1 кг | 39900 | **39900** |
| Бананы, 1 кг | 21900 | **24500** |
| Хурма, 1 кг | 39900 | **39000** |
| Яблыкі, 1 кг | 7900 | **7500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24500 | **24500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18000 | **18000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Сала, 1 кг | 110000 | **110000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25000 | **25000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |


Фота 1.bp.blogspot.com.

Смаргонец думаў, што надзейна схаваў грошы: і ад жонкі, і ад зладзеяў. А нехта пакваліўся на самі жорны, а там знайшоў і схованку.

● ЗДАРЭННІ

# Хаваў грошы ад жонкі, а абакралі зладзеі

**СМАРГОНЬ. Смаргонец набыў стары дом на хутары каля невялікай вёскі. Раней там стаяў млын. Мужчына вырашыў добраўпарадкаваць дом.**

Для гэтага тайком ад жонкі пачаў адкладваць грошы. Хаваў ён іх пад 40-кілаграмовымі жорнамі ў паветцы.

Але схованка аказалася ненадзейнай. Аднойчы прыехаўшы на хутар, гаспадар заўважыў след саней на снезе. Падумаў, што нехта вырашыў скарыстацца яго дровамі. Але на справе ўсё было яшчэ горш.

Зламыснік прыйшоў у паветку, каб скрасці жорны, а знайшоў яшчэ і грошы. Так скраў 12 мільёнаў 600 рублёў.

Узбуджаная крымінальная справа.

**Сяргей ШАРШАНЕВІЧ,**
**афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці.**

● СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Махляры просяць афармляць крэдыты і браць растэрміноўкі

**МАЛАДЗЕЧНА. Летась Маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта ўзбудзіў 70 крымінальных спраў па махлярстве, 17 з іх накіраваныя ў суд.**

Найбольш пашыраныя спосабы махлярства ў апошні час – прапанова ад малазнаёмых людзей аформіць крэдыт на іншую асобу альбо набыць тавар, а пасля не аддаваць даўгі.

Цяпер у судзе Маладзечанскага раёна разглядаецца крымінальная справа, у якой абвінавачваецца 21-гадовы хлопец. Ён ад лістапада 2013 года да красавіка 2014 года прасіў набываць у растэрміноўку мабільныя тэлефоны ў знаёмых і незнаёмых людзей. Растэрміноўкі ён не выплачваў, не аддаваў даўгі.

Тэлефоны хлопец прадаваў, за атрыманыя грошы наймаў жыллё, арандаваў дарагія машыны, траціў іх на забавы. Усяго было 104 пацярпелыя. Матэрыяльную шкоду ацанілі ў 635 мільёнаў рублёў.

### Прасіла афармляць крэдыты

У верасні была даўзбуджаная крымінальная справа ў адносінах да 34-гадовай жанчыны. Яна ад снежня 2012 года да сакавіка 2014 прасіла маладзечанцаў і жыхароў раёна аформіць крэдыты. Тыя афармлялі, аддавалі грошы жанчыне. Яна загадзя ведала, што не зможа іх аддаць.

Адзін з пацярпелых набыў жанчыне тэлевізар у растэрміноўку. Агульная матэрыяльная шкода склала 350 мільёнаў рублёў.

### Паабяцаў пасадзейнічаць за 48 мільёнаў рублёў

38-гадовы мужчына паабяцаў пасадзейнічаць траім маладзечанцам у атрыманні інтэрната. Тыя далі за гэта 48 мільёнаў 318 тысяч рублёў. Людзі так і не дачакаліся інтэрната, грошы мужчына не вярнуў.

Летась у верасні гэты ж мужчына пазычыў у знаёмага 40 мільёнаў рублёў. Да гэтага часу доўг не вярнуў. Узбуджаная крымінальная справа.

### Як караюць за махлярства

Паводле Крымінальнага кодэкса, за махлярства прадугледжаны штраф альбо грамадскія работы, альбо выпраўленчыя работы да двух гадоў ці пазбаўленне волі да трох гадоў.

Махлярства, здзейсненае паўторна альбо групай асоб, караецца штрафам альбо выпраўленчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, альбо абмежаваннем волі да чатырох гадоў.

За махлярства ў буйным памеры пагражае пазбаўленне волі ад двух да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці альбо без канфіскацыі. За махлярства арганізаванай групай альбо ў асабліва буйным памеры прадугледжанае пазбаўленне волі ад трох да дзесяці гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

**Юры БАГУШЭВІЧ,**
**старшы следчы Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта.**



● КРЫМІНАЛ

## У магазіне не хапіла тавараў

**ВАЛОЖЫН. Пасля інвентарызацыі ў магазіне ў Ракаўскім сельсавеце высветлілася, што не хапае тавараў на 12 мільёнаў рублёў.**

20-гадовая прадавачка выплаціла шкоду адразу.

Пракурор спыніў справу, дзяўчыну прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці. Ёй пагражае штраф ад 5 да 30 базавых велічынь (ад 900 тысяч да 5 мільёнаў 400 тысяч рублёў).

Пра здарэнне паведаміла следчая Валожынскага РАСК **Аксана Сагадзін**.

**Галіна СІНІЦА.**

● ЗДАРЭННІ

## Рабочага заціснула на вытворчасці

**ВІЛЕЙКА. Здарылася гэта на лініі сартавання піламатэрыялаў на "Буддэталях" у Вілейцы 2 сакавіка каля шасці гадзін вечара.**

Ахоўнік таварыства "Буддэталі" паведаміў, што рабочага заціснула ў лініі сартавання піламатэрыялаў лесапільнага цэха.

Выратавальнікі выцягнулі 28-гадовага сартавальніка. Яго шпіталізавалі з папярэднім дыягназам "вывіх і пералом правага і левага пляча, сіндром працяглага сціскання".

Для высвятлення абставін здарэння і атрымання траўмы стварылі камісію.

**Паводле mchs.gov.by.**

## Скраў грошы са стала прадпрымальніцы

**МАЛАДЗЕЧНА. 28 лютага ў міліцыю звярнулася 34-гадовая віляйчанка. Яна арандавала памяшканне ў гандлёвым цэнтры "Тройка".**

У яе стале ляжаў кашалёк, у якім было 200 тысяч рублёў, 80 долараў, банкаўская картка і пашпарт. Шкода каля трох мільёнаў рублёў.

Узбуджаная крымінальная справа.

Пра здарэнне паведаміў старшы следчы Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

**Галіна СІНІЦА.**

## Збіраліся перайсці мяжу

**АШМЯНЫ. 1 сакавіка мясцовы жыхар паведаміў, што на памежнай тэрыторыі з Літвой ёсць невядомыя людзі.**

Да месца выехала група, якая затрымала там пазадарожнік. Ім кіраваў жыхар Маскоўскай вобласці.

Затрыманыя пяць пасажыраў – чацвёра грамадзян В'етнама і адзін – Арменіі. Яны імкнуліся да лепшых умоў жыцця ў краінах Еўрапейскага саюза.

Усе змешчаныя ў ізалятар часовага ўтрымання Смаргонскай пагрангрупы. Ідзе праверка.

**Паводле Дзяржпагранкамітэта.**

● МІЛІЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Як не стаць ахвярай махляроў

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета павялічылася колькасць крадзяжоў людзьмі, што прадстаўляліся работнікамі сацыяльных сфер.**

Двойчы 23 студзеня і адзін раз 6 лютага па вуліцы Ясінскага, Маркава і Вялікім Гасцінцы невядомыя жанчыны прадставіліся супрацоўніцамі газавай службы і зайшлі ў кватэру. Адна жанчына адцягвала ўвагу, а другая шукала, дзе знаходзяцца грошы.

20 лютага жанчына, якая жыве па Скарыны, пусціла ў кватэру двух мужчын. Яны прапанавалі набыць посуд. Пасля з кватэры прапалі залатыя ўпрыгажэнні.

### Як засцерагчы сябе

Не пускайце ў кватэру, дом незнаёмых людзей, хто б яны ні былі: супрацоўнікі водаканала, работнікі газавай службы. А асабліва асоб, якія гандлююць рознымі рэчамі. Як правіла, яны гавораць, што гэта апошнія рэчы і яны прадаюць іх са скідкай.

Не пускайце ў дом асоб, якія просяць папіць вады альбо схадзіць у прыбіральню. Яны хутка ўваходзяць у давер, прыкідваюцца хворымі, стомленымі. Калі гаспадары становяцца менш пільнымі, то выглядваюць месцы, дзе захоўваюцца грошы і каштоўнасці.

**Валянцін АСІПОВІЧ,**
**начальнік аддзела ўнутраных спраў Маладзечанскага райвыканкама.**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Самагубства – шлях адзінокіх. Не пакідайце чалавека аднаго

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра самагубствы і іх прычыны распавядае доктар-псіхатэрапеўт Алена Малашка:**

– Няпраўда, што да суіцыдаў больш схільныя падлеткі. За 2014 год не было ніводнага выпадку суіцыду сярод падлеткаў. Увогуле ў Маладзечанскім раёне па спробах самагубства падлеткі складаюць толькі сем працэнтаў. Большасць жа – людзі працоўнага ўзросту.

**60% спробаў самазабойства здзяйсняюцца ў стане алкагольнага ап'янення.**

Алена Алегаўна ўпэўненая ў тым, што праблему самазабойстваў нельга замоўчваць. Пра яе трэба гаварыць адкрыта таму, што большасць людзей, якія спрабавалі звесці рахункі з жыццём, ніколі ў спецыялістаў не назіраліся.

Гаворачы пра прычыны суіцыдаў, спецыялісты вылучаюць толькі чатыры групы. Гэта крык аб дапамозе, пратэст, адмова ад жыцця і самапакаранне. А пускавых фактараў ужо можа быць безліч. Ніхто не можа прадугледзець, што ж стане апошняй кропляй у чашы цярпення. Як правіла, гэта або працяглая дэпрэсія, або страта, гвалт, цяжкая хвароба. Не апошняе месца ў шэрагу гэтых фактараў займае злоўжыванне алкаголем ці наркотыкамі.

– У маёй практыцы былі выпадкі, калі чалавек прыходзіў да мяне на прыём пасля спробы самагубства. Прыходзіў цвярозы і каяўся, што калі б не выпіў тады, ніколі ў жыцці з сабой такога б не здзейсніў.

**– Людзі, якія прыходзяць да вас пасля спробаў суіцыду, часцей шкадуюць, што іх выратавалі, ці наадварот?**

– Як правіла, усе, з кім мне даводзіцца працаваць, дзякуюць за тое, што іх выратавалі. Здаровы чалавек, якога аднойчы выратавалі, не будзе спрабаваць звесці рахункі з жыццём яшчэ раз.

**Мужчыны ў чатыры разы часцей завяршаюць самагубства. Жанчыны ў чатыры разы часцей здзяйсняюць спробы самагубства.**

Што датычыцца класіфікацыі самазабойстваў, то тут іх таксама тры: самазабойства ў стане афекту, сапраўднае самагубства і дэманстрацыйнае.

– Хаця ў апошні час дэманстрацыйнае самагубства спецыялісты ў асобную катэгорыю не вылучаюць. Таму што самагубства, нават калі пра яго чалавек гаворыць, каб напужаць кагосьці або шантажыраваць, або звярнуць на сябе ўвагу, нярэдка заканчваецца смерцю. Напрыклад выпадак, калі мужчына пагражаў жонцы павесіцца. У момант, калі жонка ўвайшла ў пакой, мужчына скокнуў з зэдліка, але зламаў шыю.



Фота www.stihi.ru

**Часам, каб выратаваць блізкага чалавека ад самагубства, яго дастаткова выслухаць і падтрымаць.**

## Сігналы, на якія варта звярнуць увагу

– Чалавек, які рыхтуецца да самагубства, як правіла, падае сігналы, якія ні ў якім разе нельга ігнараваць, – кажа Алена Малашка.

Калі чалавек прыняў рашэнне, ён пачынае сябе паводзіць іначай. Магчыма, ён будзе развітвацца, пісаць завяшчанні, раздаваць рэчы.



**Доктар-псіхатэрапеўт Алена Малашка.**

У чалавека мяняюцца паводзіны.

– Асабліва трывожны званочак, – кажа Алена Алегаўна, – калі чалавек доўгі час знаходзіўся ў дэпрэсіі, а раптам, без відавочных прычын, яму стала лягчэй. Гэта можа азначаць, што чалавек прыняў канчатковае рашэнне, і яму ад гэтага стала лёгка.

**– Што рабіць у такой сітуацыі?**

– Не пакідаць чалавека аднаго. Самагубства – акт адзінокі. Размаўляць з чалавекам. Прапаноўваць яму выйсце з сітуацыі, з якой сам чалавек гэтага выйсця можа не бачыць. Толькі не суцяшаць пустымі абяцаннямі, што ўсё будзе добра. І звяртацца да спецыялістаў.

**Наталля ТУР.**

## Адрасы, па якіх дапамогуць вам ці вашым блізкім:

"Тэлефон даверу" ў Маладзечне: **74-66-20**

"Тэлефон даверу" ў Мінску: **8-017-202-04-01**

Доктар-псіхатэрапеўт: паліклініка №2 па Вялікім Гасцінцы, 67-б, кабінет 43. Тэл: **74-71-99**

Доктар-псіхатэрапеўт: паліклініка №3, вул. Лібава-Роменская, 53, кабінет псіхатэрапеўта, тэл. **74-81-77**

Доктар-псіхіятр: псіханеўралагічны дыспансер, Вялікі Гасцінец, 58, кабінет №1 і №2, тэл: **58-04-03**; рэгістратура, тэл: **58-04-05**

Псіхолагі: паліклініка №1 , кабінет №79, тэлефон **74-91-71**.

БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

# Накармілі дранікамі, заціркай і верашчакай

**МАЛАДЗЕЧНА. У сярэдняй школе №5 адбылася сустрэча школьнікаў з пажылымі людзьмі – вязнямі Другой сусветнай вайны.**

Яна прайшла пад назвай: "Гасціннасць беларусаў: беларуская нацыянальная кухня" .

На мерапрыемства запрасілі членаў клуба "Пошук", які займаецца аднаўленнем імёнаў былых вязняў Шталага-342, а таксама наладжвае сустрэчы пажылых людзей са школьнікамі.

Вучні расказалі пра тое, як гатаваць беларускія стравы, як смачна зварыць бульбу, а таксама ўспомнілі прыказкі і прымаўкі пра ежу.

– Такой была тэарэтычная частка сустрэчы, – кажа арганізатар **Лідзія Князева**. – Другая частка мерапрыемства прайшла ў школьнай сталовай, дзе членаў клуба пачаставалі беларускімі стравамі.

– Летась мы выйгралі гранд на рэалізацыю праекта: "Сям'я скрозь прызму часу", – працягвае спадарыня Лідзія. – Грошы на чарговае мерапрыемства па праекце выдзеліў нямецкі фонд "Памяць, адказнасць, будучыня".

На сустрэчы арганізатары мерапрыемства распавялі, як смачна прыгатаваць бульбу:

Каб бульба, звараная ў лупінах, лягчэй абіралася, трэба адразу пасля варкі абліць яе халоднай вадой.

Каб смажаная бульба была хрумсткай, саліць яе трэба ў канцы прыгатавання.

Бульбу лепш варыць у лупінах, так захоўваецца больш вітамінаў.

Каб надзёртая бульба не пацямнела, у яе трэба ўліць крыху гарачага малака ці дадаць надзёртую сырую цыбуліну.

Вараная бульба будзе смачнейшая, калі дадаць у ваду 2-3 зубкі часнаку, лаўровы ліст ці кроп.

У кухні Вялікага Княства Літоўскага верашчака вядомая з сярэдзіны XVIII стагоддзя як адзін з варыянтаў мачанкі – мяснога соусу, у які мачалі бліны. Аўтар рэцэпта – каралеўскі кухмістр Верашчака. Пра гэта расказвалі школьнікі на святочным мерапрыемстве.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

**Рэцэпт верашчакі чытайце на сайце**




ЗДАРОЎЕ

# Кожнае пятае дзіця мае праблемы са здароўем

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета ў дашкольныя ўстановы Маладзечна пайшла рэкордная колькасць дзяцей – 799. Гэта на 125 дзяцей больш, чым у мінулым годзе. Кожнае пятае дзіця мае функцыянальныя парушэнні.**

Пра захворванні дзяцей расказвае загадчыца чацвертага педыятрычнага аддзялення Маладзечанскай дзіцячай паліклінікі **Ганна Ладзята.**

Дзеці ў садкі афармляюцца не зусім здаровыя. Прыкладна кожнае пятае дзіця мае нейкія адхіленні ў здароўі. Гэта можа быць яшчэ не захворванне, але ўжо функцыянальнае парушэнне. Напрыклад, шум у сэрцы, дэфекты маўлення, нязначныя парушэнні асанкі. Калі дзіця будзе сядзець крыва, нізка нахіляцца, то такое парушэнне з часам можа перарасці ў скаліёз.

Дзіцячыя садкі лічацца здароўезберагальнымі ўстановамі. Цэлы дзень дзеці знаходзяцца пад наглядам дарослага і ў адпаведным рэжыме, які садзейнічае таму, каб стан здароўя не пагаршаўся.

## Парушэнні маўлення – недапрацоўка бацькоў

Вельмі шмат дзяцей маюць парушэнні маўлення. Калі да трох гадоў дзіця не вымаўляе словы, гэта натуральна, а калі і пасля трох гадоў – гэта ўжо праблема, якую трэба вырашаць з удзелам лагапеда.

У першую чаргу гэта недапрацоўка бацькоў. Спецыяліст раіць чытаць дзецям больш казак і прасіць, каб яны іх пераказвалі, больш размаўляць з імі аб наваколлі.

## Ад класа ў клас здароўе пагаршаецца

Некаторыя сёлетнія першакласнікі маюць ужо хранічныя хваробы. Добра, што такіх мала. Дактары заўважаюць, што ад класа ў клас стан здароўя дзяцей пагаршаецца. Асабліва гэта заўважна на парушэнні зроку. Справа не ў тым, што ў школах дрэннае асвятленне класа ці дошкі. З гэтым звычайна ўсё ў парадку. З кожным годам нагрузка на дзіця павялічваецца. Адпаведна трэба больш сядзець над кнігамі, карыстацца інтэрнэтам для рэфератаў, прэзентацый, паглядзець фільм.

Калі зрок пагоршыўся, спыніць гэты працэс можна.

На адзін школьны дзень прыходзіцца дзве фізкультхвілінкі для гімнастыкі вачэй. Неабходна даваць ім адпачынак. Сядзець за камп'ютарам ці тэлевізарам дзецям школьнага ўзросту можна толькі 30 хвілін. За гэтым павінны сачыць самі дзеці і іх бацькі.

## Харчаванне ў школах і садках здаровае

Харчаванне ў школах абавязкова павінна быць. Нельга, каб школьнік больш за чатыры гадзіны быў галодны, бо гэта дрэнна адбіваецца на яго здароўі. А чыпсы, газіроўка ці бутэрброды не заменяць паўнавартасны гарачы абед. Яны могуць толькі нашкодзіць арганізму.

На школьным харчаванні гастрыт зарабіць нельга, упэўненая спецыяліст. Напрыклад, у садку для дзяцей, якія маюць алергію, пішацца асобнае меню. Увогуле, меню складаюць тэхнолагі па харчаванні, каб яно як мага лепш уплывала на абменныя працэсы.

## Пра вегетасасудзістую дыстанію ў школьнікаў

Такое функцыянальнае адхіленне, як вегетасасудзістая дыстанія, развіваецца ў дзяцей, няўстойлівых да стрэсаў. Такія дзеці заўсёды хвалююцца за адзнакі, у іх дрыжаць рукі, дамашняе заданне перапісваюць па некалькі разоў, каб толькі нідзе не было неахайнасцей.

З-за гэтага ў іх назіраецца няўстойлівы ціск, галаўны боль, агульнае недамаганне. Такім дзецям абавязкова неабходны актыўны адпачынак, фізкультура, здаровы сон.

## Прафілактычны агляд неабходна рабіць два разы на год

Прафілактычныя агляды праходзяць два разы на год. Гэта робіць участковы доктар ці доктар школьнай ці дашкольнай установы.

Для кожнага ўзросту агляды розныя. Паглыбленыя агляды робяцца для дзяцей на першым годзе жыцця, у тры, шэсць, дванадцаць гадоў і падлеткаў 15-18 гадоў. У гэтых групах праводзяцца дадатковыя абследаванні.

У тры гады дзецям правяраюць кроў на цукар, у шэсць – адбітак ступні, каб не прапусціць плоскаступнёвасць. Лічыцца, што у дзіцяці ступня фарміруецца да шасці гадоў. Пералік абследаванняў падлеткаў больш шырокі, такія агляды праходзяць з удзелам спецыялістаў.

Таксама школьнікаў аглядаюць стаматолагі.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



Фота з сайта ufo-com.net.

Прадстаўнікі супольнасці "Уфакам" разам з Аляксандрам Зайцавым даследуюць камень з ямкамі падчас астра-археалагічнай экспедыцыі ў Вілейскім раёне.

● ДАСЛЕДАВАННІ

# Уфолагі цікавяцца вілейскімі камянямі

**ВІЛЕЙКА. Да даследчыка з Любані Аляксандра Зайцава за апошнія гады разы чатыры прыязджалі ўфолагі. Аматараў даследаванняў НЛА і анамальных з'яў цікавяць старажытныя камяні з ямкамі. Якраз гэтыя камяні ўжо 15 год вывучае Аляксандр.**

На Вілейшчыне знайшлі 23 камяні з ямкамі.

– **Чым яны ўфолагаў зацікавілі?**

– Яны падтрымліваюць версію, што на камянях выбіты сузор'і, – адказвае Аляксандр. – Разам з імі ездзіў па мясцінах, дзе знаходзяцца камяні. Уфолагі рабілі здымкі мясцовасці каля іх, фатаграфавалі ямкі, замалёўвалі выявы. Усё шукалі аналогіі з сузор'ямі.

Даследчык не пагаджаецца з версіяй уфолагаў:

– Версій паходжання ямак на камянях шмат. Мая галоўная версія звязаная з прымітыўным земляробствам. Перад пачаткам сяўбы трэба было ямку ў камяні выбіць. Лічылася, што тым самым апладняеш зямную сілу, якая сядзіць у камяні. І выбіванне ямкі спрыяе добраму ўраджаю. Гэта не толькі мая версія – так лічаць даследчыкі такіх камянёў у Прыбалтыцы.

### Расказваў пра камяні на канферэнцыі

У канцы студзеня супольнасць "Уфакам" запрасіла Аляксандра Зайцава на канферэнцыю "Таямнічая Беларусь". Яна прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы. У канферэнцыі прымалі ўдзел не толькі ўфолагі, а і краязнаўцы, археолагі.

Аляксандр прадставіў даследаванне камянёў з ямкамі. Апошнія гады вывучаў іх на тэрыторыі не толькі Беларусі, але і Літвы, Латвіі, Эстоніі. Даследаваў прыкладна дзве сотні камянёў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Існуе шмат версій наконт паходжання ямак. Ёсць версіі, што камяні з ямкамі – гэта праява культу продкаў, сонца ці ўрадлівасці. Таксама вылучаюцца версіі, што гэта выемкі для розных ахвяраванняў. Розныя паданні звязаныя з камянямі.

● МЕРАПРЫЕМСТВЫ

## У гімназіі-каледжы мастацтваў прайшоў кірмаш праектаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Школьнікі прапаноўвалі свае ідэі, як зрабіць асяроддзе больш утульным, як пазбавіцца ад дрэнных звычак. Многіх зацікавіла праблема, як моладзь бавіць вольны час.**

Вучні 5-10 класаў прадставілі больш за 20 актуальных праектаў для адраджэння беларускай мовы і яе традыцый, здаровага ладу жыцця і правільнага харчавання. Выступілі супраць спайсу і інтэрнэт-залежнасці.

Былі прапанаваны дабрачынныя праекты, акцыі па азеляненні тэрыторыі, па ўтылізацыі непатрэбных рэчаў, дапамозе бяздомным жывёлам, акцыі "Скажам адзін аднаму дзякуй" і "Пагавары са мной".

### Прапанавалі зладзіць праект па "Буккросінгу" ў школе

Каб зацікавіць іншых, вучні распаўсюджвалі флаеры і лістоўкі, паказвалі відэаролікі, праводзілі выставы, інтэрактыўныя гульні, конкурсы.

Яны зацікавіліся праектам 6 "Г" класа "Буккросінг". Прапанавалі ўстанавіць стэнд, праз які людзі абменьваюцца паміж сабой кнігамі. Ты прыносіш сваю, узамен бярэш іншую. Дзеці мяркуюць, што гэта прывучыць чытаць кнігі.

Штогод сярод работ выбіраюцца лепшыя. Іх адпраўляюць на семінары і канферэнцыі для абмену досведам з іншымі ўстановамі адукацыі.

Затым некаторыя праекты рэалізуюцца: ствараюцца творчыя групы, якія праводзяць лекцыі, інтэрактыўныя заняткі. Вынікі падводзяцца на фестывалі дзіцяча-дарослых ініцыятыў, які праходзіць кожны год у красавіку.

### Пра мерапрыемства гавораць вучні

**Кірыл Ганчароў**, вучань 5 "А" класа:

– Я меў магчымасць падзяліцца з іншымі сваімі ідэямі, магчыма, яны камусьці будуць карысныя.

Вучань 9 "Г" класа **Яраслаў Яцэнка** заўважыў: "Гэты кірмаш дапамог мне выказаць сваё меркаванне наконт таго, што адбываецца вакол мяне, прапанаваць свае ідэі, як зрабіць жыццё лепшым".

Мерапрыемства прайшло 13 лютага ў гімназіі-каледжы мастацтваў.

**Юлія ДРАГУН, вучаніца 9 класа.**

● ІМПРЭЗЫ

# Да 60-годдзя мастацкай студыі падарылі сімвалічны падарунак – 60 булачак

**МАЛАДЗЕЧНА. 2 сакавіка ў Палацы культуры адкрылася выстава "Жыццё і мастацтва". Яна падрыхтаваная да 60-годдзя заснавання студыі выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.**

На выставе прадстаўлены жывапіс і графіка **Мікалая Аўчыннікава**, **Рыгора Мяжуева**, **Алены Кучко**, **Галіны Сушко**, **Юрыя Церабуна**, **Наталлі Чырвонцавай**, **Уладзіміра Тамашэвіча**, іншых. Усяго было каля 20 работ.

Падчас мерапрыемства ўзгадалі, што 1 сакавіка споўнілася б 113 гадоў заснавальніцы студыі выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва **Ядвізе Раздзялоўскай**.

### Студыя працавала на грамадскіх пачатках

Былыя вучні сказалі многа цёплых слоў пра сваю выкладчыцу, узгадалі, як працавала студыя ў 1955 годзе.

– Прайшло 23 гады, як няма Ядзі, а мы кожны год збіраемся ўзгадаць яе імя добрымі словамі, – пачаў Юры Церабун. – Я быў яе вучнем 50 гадоў таму. Тады іграў на цымбалах, яна заўсёды казала: "Кідай свае цымбалы, ідзе маляваць!" Не пагаджаўся з гэтым: і маляваў, і цымбалы не кінуў. Ядвіга была мастаком, якая незвычайна чулліва бачыла і адчувала свет.

Мастак узгадаў, што спачатку студыя выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва працавала на грамадскіх пачатках, не мела сталага месца знаходжання.

### Агуркі і сала добрыя, але бутэлька толькі адна

Юры Церабун узгадаў, калі Ядвіга Раздзялоўская збірала мастакоў, то заўсёды стваралася даверлівая абстаноўка, чуліся жарты.

Мастак заўважыў, што сёння яго работу таксама адзначылі жартаўліва. Глядач заўважыў, што сала, агуркі намаляваныя добра. А вось шкада, што толькі адна бутэлька на карціне.

### Паказалі аматарскія фільмы Юрыя Церабуна

Падчас вечарыны ў малой зале Палаца культуры паказалі аматарскія фільмы Юрыя Церабуна пра **Кастуся Харашэвіча**, **Юрася Герасіменку** і Ядвігу Раздзялоўскую.

Маладзечанская паэтка Ларыса Сысун для мерапрыемства напісала верш.

Узгадалі падчас вячэры і выпускнікоў студыі. Пра **Юрася Герасіменку** сказалі, што ён быў цудоўным рысавальшчыкам, ствараў ілюстрацыі да мастацкіх тэкстаў. Яго ілюстрацыі ёсць да аповесці **Васіля Быкава** "Знак бяды", да казкі "Каток-залаты лабок".

Напрыканцы вечарыны студыі выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва падарылі падарункі. Самы незвычайны быў у паэткі Ларысы Сысун – 60 булачак.

**Галіна СІНІЦА.**

# 18-19 красавіка адбудзецца "Фэст экскурсаводаў-2015"

**Арганізатары запрашаюць усіх ахвотных далучыцца да агульнай справы, а экскурсаводам прапаноўваюць правесці адну бясплатную экскурсію.**

Праз бясплатныя экскурсіі арганізатары спрабуюць прыцягнуць увагу мясцовых жыхароў да гістарычных помнікаў і актывізаваць творчую "жылку" экскурсійнай справы ў краіне.

Экскурсія, якую прапаноўваюць правесці, мусіць быць пешаходнай. Варыянт ровараў, плытоў, канькоў і гандолаў таксама прымаецца.

Поўны спіс экскурсій па нашым рэгіёне плануе размясціць "РГ".

Да фэсту могуць далучыцца і турфірмы са сваімі прапановамі.

У яго межах пройдзе блок "вучнёўскіх экскурсій". Усім ахвотным арганізатары абяцаюць дапамагчы арганізаваць і правесці першую экскурсію.

Падчас фэсту, 18-19 красавіка, спатрэбіцца і дапамога валанцёраў. Валанцёр на фэсце – гэта кіраўнік экскурсіі. Менавіта ён сочыць за парадкам, пералічвае колькасць удзельнікаў экскурсіі, фатаграфуе яе, раздае матэрыялы і валодае інфармацыяй пра месца і час правядзення іншых экскурсій.

Па ўсіх пытаннях можна звяртацца на электронны адрас: festguides@gmail.com.

**Аддзел інфармацыі.**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-100, 1987 г.в., 1,8 г-б, цёмна-сіні, добры стан. Т. Вэлком (8-029) 3362994.*

• Аўдзі-80 В4, 1994 г.в., сіні металік, 2,0 і, г/у, ц/з, ABS, выдатны стан. Тел. МТС (8-033) 3277100.*

• Аўдзі-А6, 1995 г.в., 2,0 мона, бензін, чорны перламутр + камплект гумы на дысках. Добры стан. Т. (8-044) 7380444.

• БМВ-318, 1991 г.в. Т. (8-044) 5305773.*

• ВАЗ-2105, 1996 г.в., добры стан, цана дагаворная. Т. (8-029) 6525751.

• **ВОЛЬВА-460**, 1992 г.в., 1,8Б, седан, 21 500 000 руб. Т. (8-033) 6008152.

• ГАЗ-53, самазвал, газ-бензін, праблемы з дакументамі; рухавік Д-240 (поўны капрамонт); труба азбестацэментная d = 110, L=4 м; матацыкл МТ-10 (пасля капрамонту). Т. Вэлком (8-029) 1178715, МТС (8-029) 7075402.*

• Гольф-1, 1,6Д, па запчастках. Т. (8-029)1337681, (8-029) 5662873.

• Datsun ON-DO, 1.6 MT (Nissan), 2014 г.в., прабег 1000 км, расход 4,6 л. Максімальная камплектацыя. Гарантыя 3 гады ці 100 тыс. км. Цана дагаворная. Т. Вэлком (8-029) 3590794, Вэлком (8-029) 1920432.*

• Мазда-626, 1996 г.в., добры стан. Т. Вэлком (8-029) 6310978, Вэлком (8-044) 7345598.

• Міцубісі-Кольт, 1996 г.в., 1,3 Б, цана дагаворная. Т. Вэлком (8-029) 6887435.*

• Міцубісі-Лансер, 1992 г.в.,1,5 інжэктар, без праблем, тэрмінова, 17 000 000 руб. Т. (8-029) 7560945.*

• Нісан-Прымера, 1995 г.в., 1,6 Б, седан, серабро, у добрым стане. Т. (8-029) 7585749.*

• Опель-Зафіра, 2010 г.в., 1,8 л бензін. Т. (8-029) 3555444.*

• Пежо-405, 1991 г.в., 1,9 дызель, універсал, зялёны. Т. (8-044) 7196323.*

• Пежо-406, 1998 г.в., 1,9ТДІ,. Т. (8-033) 3276088.

• Рэно-Сцэнік, літыя дыскі на 16. Т. (8-029) 6370991.

• Сітраэн-Ксара, 2003 г.в., 1,6 бензін, бардовы хэтчбэк, 5 дзвярэй. Т. (8-044) 4934760.

• Таўрыя, 200 г.в., белая, магчыма ўстаноўка ручнога кіравання. Т. (8-029) 3635492.

• УАЗ-буханка ў добрым стане. Т. (8-029) 7619245.*

• Урал-43202, рухавік ЯМЗ-238. Т. (8-029) 6388489, (8-033) 3118730.

• ФВ-Гольф-2, 1991 г.в., 1,8 мона, 24 000 000 руб. Т. МТС (8-029) 5062328.

• ФВ-Пасат, 1986 г.в., Д. Т. Вэлком (8-044) 7020538.*

• ФВ-Пола, 1984 г.в., 1,0 Б, шэры металік, ТА да 12.15 г., выдатны стан. Т. (8-033) 6102238.

• **ФВ-ФІЕСТА**, 1985 г.в.,1,6Д, 12 000 000 руб. Т. (8-033) 6062301.

• ФВ-Гольф 4, ц/сіні, хэтчбэк, бензін,75 кВт, з камплектам летняй гумы, на літых дысках, у выдатным стане. Т. (8-029) 7073219.*

• ФВ-Пасат, 1988 г.в, бензін, 1,8 мона, чорны перламутр, літыя дыскі 4 шт. Т. (8-033) 6609740.

• Фіят-Паліа, 2001 г.в.,1,9Д, белы. Т. (8-029) 6201941.

• Фіят-Брава, 1,4 бензін, прабег 170 тыс., добры стан, 35 000 000 руб. Т. (8-029) 5606786, Валодзя.*

• Фіят-Брава, 1997 г.в., 1,4 газ-бензін. Т. МТС (8-029) 2523177*

• Форд-Гэлаксі, 1998 г.в., чыа версія, 2,3 бензін, поўны эл/пакет, 2 убудаваныя дзіцячыя а/крэслы, парктронік, сігналізацыя, аўто без праблем, камплект летніх шын на л/д у падарунак. Замененыя расходнікі. Т. (8-029) 9609122.

• Форд-Эскорт, 1991 г.в., 1,4 бензін. Цана дагаворная. Т. МТС (8-033) 3147186.

• Форд-Сіера, 1988 г.в., газ-бензін. Т. (8-033) 6383847.*

• Форд-Транзіт, 1998 г.в., 2,5ТДІ, падвышаны, кароткі, добры стан. Т. (8-029) 3675088.*

• Форд-Эскорт, 1994 г.в., седан, цёмна-сіні металік, 3533) 6241379.

• Шаўрале-Авеа, 2010 г.в., 1,2 Б, седан, з Германіі. Т. (8-029) 2458568.

• **АЎТАЗАПЧАСТКІ** б/у да **НЯМЕЦКІХ І ФРАНЦУЗСКІХ** аўто. Гарантыя, г.Ліда. Дастаўка ў Маладзечна. ІП Малец П.Н. УНП 591319307. Т. (8-029) 9289224, (8-029) 7417597, (8-033) 3761764.*

• **АЎТАЗАПЧАСТКІ Б/У ДА РЭНО, ПЕЖО, СІТРАЭНАЎ. ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ, ГАРАНТЫЯ,** Маладзечна, вул.Маладзёжная, 10. ІП Еўдакіменка Д.І. УНП 191984027. Т. (8-044) 7149298, (8-029) 8628501.*

• Запчасткі б/у да Аўдзі-В3. Т. (8-029) 5686869.*

• **ЗАПЧАСТКІ** б/у **ДЛЯ ЎСІХ** марак аўто. г. Маладзечна, вул. Маладзёжная,10. ІП Еўдакіменка Д.І., УНП 191984027. Т. (8-029) 8787760, (8-029) 6392287*

• Запчасткі б/у для ФВ-Гольф 3. Т. (8-029) 6154346.*

• Запчасткі б/у для ФВ-Пасат В3. Т. (8-029) 8777677.*

• **ЗАПЧАСТКІ КУЗАЎНЫЯ (НОВЫЯ ЦІ Б/У), ОПТЫКА, АЎТАЭМАЛІ, МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ РАМОНТУ КУЗАВА, АЎТАШКЛО ПРАПАНУЕ СТА "КУЗАЎ". У НАЯЎНАСЦІ І ПАД ЗАКАЗ. НАЯЎНЫ І БЕЗНАЯЎНЫ РАЗЛІК. ТАА "ІНЖЫНЕРТРАНССЭРВІС" УНП 691298030. Т. (8-033) 3860900, (8-029) 3870900.***

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО; КРЫЛЫ, КАПОТЫ, ПАРОГІ, РАМ. УСТАЎКІ АРАК І ІНШЫХ ЧАСТАК КУЗАВА. А ТАКСАМА ГЛУШЫЦЕЛІ, БАМПЕРЫ, ПАДКРЫЛКІ І ШМАТ ІНШАГА.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• КПП-5 да ВАЗ-2109. Т. (8-029) 5020457.

## КУПЛЮ

• **АЎТО, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• Аўтамабіль любога года выпуску, з любымі праблемамі. Дорага. Т. (8-044) 4625799*

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус, грузавік, пагрузчык. Т. (8-029) 5524004.*

• Аўто 1980-2010 г.в. у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*

• Аўто 1984-2005 г.в. у любым тэхнічным стане, аварыйнае ці на запчасткі. Т. (8-029) 2635648.*

• Іншамарку да 30 000 000 руб. Т. (8-029) 3856049.*

## ПАСЛУГІ

• Арэнда крана «Маніту», груз. - 5 тон, вышыня – 22 м. ЧУП «Дойлід-С» УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.

• Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5062372.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР, ТРАНШЭІ ПАД ВАДУ, ГАЗ, ПАДМУРАК. ІП КРОЕР А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.***

• Міні-экскаватар: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• **ЭКСКАВАТАР-ПАГРУЗЧЫК, ТРАНШЭІ, КАТЛАВАНЫ, УБОРКА СНЕГУ.** ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554*





# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

• 1/2 цаглянага дома (60 кв.м), газ, у в. Лебедзева Маладзечанскага р-на па в. Новай,1, магчымы абмен на 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-0176) 720312, (8-025) 9938287.

• 1-пакаёвая кватэра з частковымі выгодамі ў Маркаве, 2/1 паверх, 19,2/14,5, шклопакет, лічыльнік вады, металічныя дзверы, тэлефон. Т. (8-0176) 747266.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, р-н МЭС, агул. пл. 38,8, 1/2 пав., цэгла. Т. (8-029) 6400571.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, м-н Зеніт, еўрарамонт. Т. Вэлком (8-044) 7281824.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-01771) 24711, (8-029) 5527421.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Маладзёжнай 2/3 п. Тэрмінова! Т. Вэлком (8-029) 6851798, МТС (8-029) 8012806.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-029) 6888111, (8-029) 3555444.*

• Гараж у ГБК-3 па вул. Незалежнасці ў Вілейцы. Т. (8-01771) 25693, (8-029) 7494196.

• Гараж у ГБК-3 у Вілейцы. Т. (8-029) 3746998.*

• Дача ў в. Заскавічы, садовае таварыства «Сосны», ёсць дом, гаспабудовы, альтанка, возера, рака. Т. (8-029) 1787505.*

• Дача ў СТ "Меліяратар", 3 км ад Маладзечна. Т. МТС (8-033) 3303098.*

• Дача, 3 км ад Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 6170130.*

• Дом 14,7х6,8 з участкам 25 сотак у в. Нарач Мядзельскага р-на. Магчымасць падвядзення газу. 2 км ад возера Нарач. На мяжы ўчастка –маленькая рэчка. Цана 225 000 000 руб. Т. (8-044) 7588830.*

• Дом 2-павярховы, 150 кв.м, у Вілейцы (Макаўе). Т. (8-01771) 35457 пасля15.00.*

• Дом новы ў дачным кааператыве "Раднічок" у Мароськах. Т. Вэлком (8-044) 5412886.*

• Дом у а.г. Даўгінава, 65,5 кв.м, 3 пакоі, пячное ацяпленне, сад, 25 сотак, 60 000 000 руб, торг. Т. (8-029) 5359422.

• Дом у в. Лебедзева, 32 кв.м, 15 сотак, усё прыватызаванае. Тэрмінова, торг. Т. Вэлком (8-029) 3463652.*

• Дом у в. Порса Вілейскага р-на, 2 пакоі, кухня, калідор, веранда, абкладзены блокамі, газ побач, вада побач. Т. МТС (8-033) 6326516. Андрэй.

• Дом у в. Скадорвы Валожынскага р-на, гаспадарчыя пабудовы, участак 30 сотак. Т. МТС (8-029) 5681972, Вэлком (8-029) 3149305.*

• Дом у в. Шылавічы Вілейскага р-на, цэгла, 77 кв, 21 сотка, сад, гаспабудовы, гараж, прыватызаваны. Т. (8-029) 8404658.

• Дом у в.Талуць Вілейскага р-на. Т. (8-029) 7508723.

• Дом у Вілейцы, 138 м.кв, 8 сотак, побач вадасховішча. Т. (8-01771) 22021, (8-029) 7064012.

• Дом у Маладзечне па вул. Л.-Роменскай, 81,9 кв, пячное ацяпленне, газ, вада па вуліцы, 10 сотак, гаспадарчыя пабудовы, торг. Т. (8-029) 2659085, (8-029) 2549012.

• Дом у цэнтры в. Залессе Смаргонскага р-на, плошча 63 кв.м, плошча зямельнага ўчастка 17,87 соткі. Т. Вэлком (8 -044) 7174788, МТС (8-029) 8817120.*

• Кватэра ў Маладзечне па вул. Ясінскага, 32, сталінка, 2 паверх, агул. плошча 75 кв.м, вялікая прыхожая, туалет, ванна – раздзельныя, кухня 8 кв.м. Т. (8-029) 6692065.*

• Кватэра ў элітным доме ў Вілейцы, 108 кв.м, вышыня 3,2 м, еўрарамонт, гранітны камін, цёплая лоджыя, 2 цёплыя гаражы, падвал 12 кв.м. Т. (8-029) 2632434.

• Паўдома ў Маладзечне, раён Старое Места, 40 кв.м, водаправод у доме, газ па вуліцы, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 5548091.

## КУПЛЮ

• Дачу нядорага. Т. (8-029) 9276686.*

• Дом стары ў вёсцы. Т. (8-029) 9276686.*

• Дом. Т. (8-029) 3780215.*

## МЯНЯЮ

• 3-пакаёвую кватэру на 2-пакаёвую ў Вілейцы. Т. (8-01771) 20746, (8-029) 2725566.

## ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне па вул. Б.Хмяльніцкага з мэбляй. Т. (8-029) 6231767.

• Здам у арэнду ці прадам памяшканне ў цэнтры Маладзечна, 32 кв.м, тэрмінова. ІП Шарох В.М. УНП 691402596 . Т. (8-029) 5551515.*

• Пакой у Маладзечне. Т. МТС (8-033) 6002776.

## НАЙМУ

• 3,4-пакаёвую кватэру ў Маладзечне з мэбляй і еўрарамонтам на доўгі тэрмін для сям'і з 2 чалавек. Разгледзім усе варыянты. Т. (8-025) 7880034.

• Кватэру ў Вілейцы, можна дом, тэрмінова. Т. (8-029) 5065723.

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі, юбілеі, карпаратывы на любы густ і пад ваш бюджэт. Т. (8-029) 6188716.*

• **ПРАКАТ БЕЛАГА ЛІМУЗІНА. КАДЗІЛАК. ЧОРНЫ БМВ У ПАДАРУНАК**. ІП Аладка А.І. УНП 690337519. Т. (8-029) 3483306.*

## ЦЫРУЛЬНІ

• **СТРЫЖКА І ДОГЛЯД ЗА ПОЎСЦЮ ДАМАШНІХ ЖЫВЁЛ** у ГЦ "Тройка", 4 паверх. Да канца месяца вельмі нізкія цэны! ІП Пружан С.М. УНП 690369213. Тэл. для запісу: Вэлком (8-044) 4707113.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• **AM-VIDEO, ВІДЭАЗДЫМКА HD, МАНТАЖ**. ІП Малько А.Г., УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• Відэа-фота ўрачыстасцяў, святаў, карпаратываў. Тэлестудыя «Наш час». УНП 601058195. Т. (8-029) 6201941, (8-0176) 544670.*

• Фота і відэа 16:9 вяселляў, юбілеяў і іншых урачыстасцяў. Слайд-шоу і фотакнігі. Аблічбоўка відэакасет. Параім музыкаў. ІП Чарняўскі С.В. УНП 691396671. Т. (8-029) 3305452, (8-029) 7686148.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Івека – фургон да 3 тон, даўжыня 3,7 м, санпашпарт, санкніжка. ІП Радзілавец В.А. УНП 691393672. Т. МТС (8-029) 7038367.*

• МАЗ, грузападымальнасць 10 т, па РБ. ІП Чубін В.В. УНП 691509491. Т. МТС 5740702, Вэлком 3108569.*

• МАН бартавы, 20 т, 13,6 м; МАН гідраманіпулятар, 20 т. ІП Шеремет В.В. УНП 691289007. Т. (8-029) 2713567.*

• Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Абліцоўка пліткай. ІП Папоў Д.В. УНП 690692726. Т. (8-044) 7648804.

• **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. Вадасцёкавыя сістэмы. Замер, кансультацыя, дастаўка. Іншыя аддзелачныя работы. ІП Барысевіч А.П. УНП 690686296. Т. (8-029) 7085907, (8-029)1022232.*

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• **БУХГАЛТАРСКІЯ ПАСЛУГІ ДЛЯ ФІЗІЧНЫХ І ЮРЫДЫЧНЫХ АСОБ. СТВАРЭННЕ І ЛІКВІДАЦЫЯ АРГАНІЗАЦЫЙ, ВЯДЗЕННЕ, АДНАЎЛЕННЕ БУХГАЛТАРСКАГА ЎЛІКУ, УСЕ ПЫТАННІ ПА ЗДАЧЫ ПАДАТКОВЫХ ДЭКЛАРАЦЫЙ, ФСЗН, БЕЛДЗЯРЖСТРАХ**. ЧУП "Мегама" УНП 691887778, г.Маладзечна, ул. В.Гасцінец,143 (ГЦ "Тройка"), офіс 520. **Т. ВЭЛКОМ (8-029) 1298889, МТС (8-029) 7498889, (8-0176) 759888,** mail: megama@tut.by.*

• Вароты, агароджы, навесы, казыркі. Зварныя, кованыя. З прафнасцілу. Наяўны і безнаяўны разлік. Дастаўка, мантаж. ІП Горынаў С.В. УНП 691886651. Т. (8-033) 3917208, (8-029) 9857268.*

• Выраб і ўстаноўка міжпаверховых лесвіц з дрэва. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блокхаус, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• Добраўпарадкаванне месцаў пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417, (8-029) 5544175.*



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

** Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• Еўрасцяжка. ІП Зіневіч Е.П. УНП 591702887. Тел. МТС (8-029) 2335084, Вэлком (8-029) 3823187. *

• **ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ГРМ, ланцугоў, рамонт падвескі. **ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*

• Кантрольныя, курсавыя, рэфераты. ІП Герасімчык Н.П. УНП 691517659. Т. (8-029) 5503071.*

• Паслугі электрыка. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

• **ПАШЫЎ АЎТАМАБІЛЬНЫХ СЯДЗЕННЯЎ І ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці і розных матэрыялаў за наяўны і безнаяўны разлік. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. (8-029) 6932184.*

• Перацяжка мяккай мэблі, рамонт матрацаў, вялікі выбар тканін. ІП Ярашэвіч Е.С., УНП 691861564. Т. (8-033) 9000440, (8-029) 6206260.*

• Рамонт ноутбукаў і камп’ютараў. Устаноўка Windows, Wi-Fi, антывірус. Выезд. ІП Сасноўская Н.Б. УНП 691881741. Т. (8-029) 3977734.*

• Рамонт кватэр, дамоў, офісаў любой складанасці. Наяўны, безнаяўны разлік. Дызайн, пакупка матэрыялу. ІП Іваноў Ю.Ф. УНП 591807698. Т. (8-029) 9994962. (8-025) 7728958.

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА. ГАРАНТЫЯ. ПА ГОРАДУ**. ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шаповал Г.В. УНП 690688393. Т. У Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Рамонт, выраб розных металавырабаў, варот, брамак, лавак, сталоў, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Рамонт, настройка піяніна, баянаў, гармонікаў, акардэонаў. Выезд да заказчыка. Т. (8-029) 6166674, (8-029) 2607779.

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СТАПЕЛЬНЫЯ РАБОТЫ, ЗВАРАЧНЫЯ, АНТЫКАРАЗІЙНУЮ АПРАЦОЎКУ КУЗАВА, ЗАМЕНУ АЎТАШКЛА, ПАДБОР АЎТАЭМАЛЯЎ, АФАРБОЎКУ КУЗАВА ВЫКОНВАЕ СТА “КУЗАЎ”. НАЯЎНЫ І БЕЗНАЯЎНЫ РАЗЛІК. ТАА “ІНЖЫНЕРТРАНССЭРВІС” УНП 691298030. Т. (8-044) 5949555, (8-033) 6746555.***

• **СТУДЫЯ ТАТУ** “Карона Арт” прапануе татуаж броваў, павек і губ, мастацкую татуіроўку. ІП Кушч О.А., УНП 691880191. Т. (8-029) 3345044, (8-029) 7080997.*

• Усе віды будаўнічых і аддзелачных работ. Якасна. ІП Зінкевіч С.Е. УНП 691362918. Т. (8-029) 6336528.*

• Усе віды будаўнічых работ. Наяўны і безнаяўны разлік. ЧБУП “ЮлМірБуд”, УНП 591804221. Т. (8-029) 2827362.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння, віншаванні. Вяселлі, юбілеі, карпаратывы для дарослых, выпускныя вечары. ІП Канановіч І.Е. УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692 МТС, (8-044) 4904791 Вэлком.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*

• Вагонка лісцёвая, хвойная, 75 000 руб т. кв. Дошкі сухія. Т. (8-029) 3886771.

• Камень палявы. Вілейскі р-н. Т. (8-033) 6325292.

• Ламінат “Дуб Венскі”, 19 кв.м. Т. (8-029) 8560224.

• Сетка рабіца 1,5-1,8 м.в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м.п., вугалок 40 м.п., труба профільная 300 м.п. Т. МТС (8-033) 6603068.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Катлы. Печы. Лазні. Бетонамяшалкі. Воданагравальнікі. Помпы. Сантэхніка. Ацяпленне. Культыватары. Сайт 940.BY. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Т. (8-029) 2599940.*

• МТЗ-80-50, прычэп і сельгаснавясныя.Т. МТС (8-033) 3856805.*

• Трактар МТЗ-50, 1978 г.в., 1990 капрамонт рухавіка, 1990 – замена каробкі. Прычэп двухвосевы МТЗ – металічная платформа, борт – дрэва. Плуг – тры карпусы, капалка двухрадная, культыватар, бульбазбівалка. Дадаткова – запчасткі да рухавіка, паліўныя помпы і інш., запчасткі да навяснога абсталявання, 95 000 000 руб, магчыма торг. Т. Вэлком (8-029) 6769678. Лайф (8-025) 7151014.

**Бытавая тэхніка**

• Маразільнік у выдатным стане. Т. (8-029) 8560224.

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 7627898, (8-029) 3326779.***

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ НТВ + І ТРЫКАЛОР ТВ. АКЦЫІ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 5702212, (8-029) 9056393.***

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ “ТРЫКАЛОР” – СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД “Тройка”, п. 536. ПГУП “Ліцераль”. УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

• Табурэты новыя, 4 шт., 400 000 руб. Т. (8-025) 9663109.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабан жывой вагой. Т. (8-029) 1254692.

• Свінні. Т. (8-029) 3350316.*

• Шчаня алабая. Т. (8-029) 5719668, (8-029) 9368569.*

• Шчаняты ёрка. Т. (8-029) 5719668, (8-029) 9368569.*

• Шчаняты ёркшырскага тэр’ера (2,5 мес.), радаслоўная, стандарт, кабялькі. Т. (8-029) 6135093.*

**Іншае**

• Балон вуглекіслотны запраўлены ці абмен. Т. (8-044) 7676327.

• Вокны ПВХ 1,50х1,20 (2 шт.). Вокны драўляныя (шклопакеты) 0,86х0,56 (3 шт.), 1,46х0,56 (2шт,) Дзверы ПВХ (узмоцненыя, глухія) 2,00х1,25 (2 шт.). Шклаблокі – 47 шт. Танна. Т. Вэлком (8-029) 3590794. Вэлком (8-029) 1920432.*

• Бульба буйная і кабан жывой вагой каля 120 кг. Т. (8-01771) 22034. (8-044) 7714233.

• **ВЫРАБЫ З МАСТАЦКАЙ КОЎКІ.** Вароты, казыркі, поручні, агароджы, садовая мэбля і інш. **ЦЯПЛІЦЫ** з профільнай ацынкаванай трубы па вельмі нізкіх цэнах. ІП Варановіч А.М. УНП 691175298. Т. (8-029) 5355470, (8-029) 2728695.*

• Дзіцячае аўтакрэсла – бустэр 15-36 кг. Т. (8-029) 3732422.

• Дровы, можна колатыя. Т. (8-044) 7676327.

• Малако ад казы. Т. (8-044) 4567627.

• Пасека, танна. Т. (8-029) 1738122.*

• Печ у лазню. Г. Вілейка. Т. (8-029) 6165118.*

• Печ-буржуйка, воданагравальнік (15 л) Арыстон б/у, нядорага. Т. (8-033) 6000181.

• Прафнасціл. Т. (8-029) 7606894.*

• **СЕТКІ МАСКІТНЫЯ, ЛЮБЫ ПАМЕР, 230 000 РУБ, ЗАМЕР, УСТАНОЎКА. ЧП «ВОКНАМАН» УНП 691515273. Т. (8-029) 5730919.**

• Трымальнік для ручнікоў П-падобны. Вышыня 1 м, шыр. 53 см.Т. (8-029) 8560224.

• Батарэі чыгунныя б/у. Т. (8-029) 6319537.*

• Шкуркі куніцы. Т. (8-029) 8552646.

### КУПЛЮ

**Мэблю**

• **СТАЛЫ І КРЭСЛЫ ДЛЯ СТАЛОВАЙ НА 80-100 ПЕРСОН (МОЖНА Б/У). ТАА «АНАЛАГ-БУД» УНП 691396416Т. (8-029) 3292790**

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. “Беларуская Энцыклапедыя” імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

### ЗГУБЛЕНА

• Сабака, нямецкая аўчарка, сука, чорна-рыжая, са скураным ашыйнікам. Просьба да таго, хто бачыў ці ведае месцазнаходжанне сабакі, паведаміць па тэл. (8-029) 6351506. Узнагароду гарантую.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Аддзелачніка. Усе віды, акрамя пліткі. Вялікі досвед. Т. (8-029) 3605806.

• Праграміста (праграміраванне ў 1С, у DOS, суправаджэнне задач “Улік ОС”, “Улік МЦ”,”Улік ТМЦ і выпіска са склада”, “Калькуляцыйная картачка”). Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 145-08-89, МТС (8-029) 263-88-79.*

• Шукаю працу. Адукацыя юрыдычная. Т. (8-029) 2591429.

### ПАТРАБУЮЦЦА

• Адміністратар (дзяўчына) у сэрвісны цэнтр па рамонце мабільных тэлефонаў у Валожыне. ТДА “Клаттон” УНП 190101114. Т. (8-029) 3971772.*

• Прадавец харчовых тавараў у ЧТУП “Восторг-Лик” у Вілейцы. УНП 691168652. Т. (8-029) 7756165, (8-029) 6129815.*

АСОБЫ

# Як Яшка стала "рускай Жаннай д'Арк"

## Прататып гераіні фільма "Батальён" ваявала пад Нараччу і Крэвам

**СМАРГОНЬ, МЯДЗЕЛ, МАЛАДЗЕЧНА. Пасля выхаду на экраны фільма "Батальён" абудзілася цікавасць да асобы Марыі Бачкаровай. Яна – адна з першых рускіх жанчын-афіцэраў, стваральніца першага ў гісторыі рускай арміі жаночага батальёна. Марыю называлі "рускай Жаннай д'Арк".**

Багата чаго пра яе жыццё можна даведацца з кнігі ўспамінаў, якую журналіст **Ісаак Дон Левін** напісаў па расказах Марыі Бачкаровай.

### За каханым адправілася ў ссылку

У фільм "Батальён" увайшоў толькі невялікі кавалак біяграфіі Марыі Бачкаровай. А падзей у яе жыцці хапіла б на некалькі серыялаў.

Першы, пра яе жыццё да вайны, мог бы быць меладрамай. Тут і цяжкая праца з дзяцінства, і нягоднік, які абяцаў ажаніцца і падмануў. У 15 год Марыя выйшла замуж за рабочага, які піў і збіваў яе. Марыя збегла ад мужа ў Іркуцк. Як магла, здабывала сабе на хлеб: мыла рэчы, укладвала асфальт. Яе ледзьве не падманам завабілі ў публічны дом.

Далей услед за сваім новым каханнем, сынам мясніка і аднячасова разбойнікам **Якавам Бруком**, яна адправілася ў ссылку. Але і той пачаў збіваць Марыю.

Вось тут можна пачаць другі серыял – ваенны.

### Стала салдатам па распараджэнні Мікалая II

Пасля пачатку вайны Марыя амаль два месяцы дабіралася ў Томск. Папрасіла залічыць яе радавой у войска. Яе высмеялі, прапанавалі запісацца сястрой міласэрнасці. Не пагадзілася.

Пазычыла ў маці грошы і адправіла тэлеграму цару з просьбай накіраваць яе на фронт. Па асабістым распараджэнні Мікалая II яе залічылі радавой у Томскі запасны батальён. Абстрыжаную дачку ў форме маці адразу не пазнала.

**У жаданні ваяваць супраць агрэсараў нічога не стрымала Марыю. Ні ўгаворванні і крыкі родных, ні кпіны салдат:**

– Яна шарахнецца ад першай жа германскай кулі, як чорт ад ладану, – казалі яны.

Першая ноч у казарме выдалася для салдата Бачкаровай бяссоннай. То адзін салдат бліжэй пасунецца, то другі паспрабуе руку на грудзі пакласці. Марыя біла смельчакоў.

Паступова прыйшла павага салдат. Па-простаму называлі яе Яшкам.

### На перадавой

У лютым 1915 года рэзервовы батальён адправілі на фронт. Марыя апынулася на рубяжы Полацк-Паставы. Праз некалькі дзён яе рота пайшла ў атаку, што аказалася няўдалай. Як толькі сцямнела, Марыя прапаўзла пад драцянымі загародамі і ўсю ноч перацягвала параненых у траншэю. Выратавала амаль 50 чалавек, за што атрымала Георгіеўскі медаль чацвертай ступені.

Неўзабаве яе паранілі. Пасля лячэння зноў вярнулася на фронт.

*"Нашай роце неўзабаве была пастаўленая задача дзейнічаць у якасці прыкрыцця артылерыйскай батарэі. Мы прабылі каля гэтай батарэі два ці тры тыдні, а потым нас перакінулі ў раён Слабады, невялікага гарадка паблізу Нарачы, у 40 вёрстах ад Маладзечна. Нашы пазіцыі размяшчаліся ў балоцістым раёне. Адкрыць тут поўнапамерныя траншэі і падтрымліваць іх у належным стане было немагчыма. Мы пабудавалі бар'ер з мяхоў з пяском, за якімі і сядзелі сагнуўшыся і па калена ў вадзе...".*

Радаваліся салдаты, калі выпадаў час адпачынку. *"Нас размясцілі на пастой у вясковых хатах, і мы ледзь не кожны дзень ладзілі розныя спаборніцтвы і гульні, менавіта тут мяне ўпершыню навучылі пісаць літары алфавіту і распісвацца".*

Калі пайшоў снег, вярнуліся на перадавую.

*"Наша пазіцыя цяпер знаходзілася ля Фердынандава Носа, паміж возерам Нарач і Баранавічамі. У першую ж ноч камандзір роты прапанаваў нам вылучыць 30 добраахвотнікаў для разведкі боем, каб выявіць сілы і пазіцыі непрыяцеля. Я была ў ліку трыццаці".*

Вярнулася з гэтай групы дзесяць салдат. Камандзір асабіста падзякаваў Марыі за адвагу.

Прыгадвае яна, якая суровая была зіма 1915 года.

*"Жыць у акопах стала нясцерпна цяжка. Смерць сустракалі як выратаванне ад пакут... Часта здаралася так, што людзей засыпала снегам, і яны замярзалі. Многія абмарожвалі ногі, і тады патрабавалася ампутацыя".*

### "Нельга было зрабіць і кроку, каб не наткнуцца на забітага"

Удзельнічала Марыя ў баях Нарачанскай аперацыі ў сакавіку 1916 года. Успамінае іх як жудасныя:

*"6 сакавіка мы пачалі нябачаную да таго артылерыйскую падрыхтоўку. Германцы адказвалі магутным агнём, і зямля проста трэслася ад выбухаў. Кананада працягвалася некалькі гадзін...*

*Затым быў дадзены сігнал да наступлення, і мы пайшлі на непрыяцеля, ідучы па калена ў вадзе. У асобных месцах вада даходзіла нам да пояса. Снарады і кулі касілі нашы шэрагі. Многія з параненых падалі ў гразь і танулі ў ёй...*

*Пачуўся загад адыходзіць назад. Як апісаць тое адступленне ў пекле нічыйнай паласы ў ноч на 7 сакавіка 1916 года?*

**Паўсюль з вады і гразі тырчалі галовы людзей, якія жаласна малілі пра дапамогу. Страты ж былі незлічоныя.**

*Паўсюль трупы, як грыбы пасля дажджу, і безліч параненых. Нельга было зрабіць і кроку, каб не наткнуцца на забітага – рускага або немца.*



Фота з сайта istpravda.ru

Бачкарову параўноўвалі з Жаннай д'Арк.

### "Усялякі флірт і нават намёк на яго будзе карацца адлічэннем"

Да лютага 1917 года ў Марыі Бачкаровай – чатыры раненні і чатыры георгіеўскія ўзнагароды (два крыжы і два медалі).

На пасяджэнні салдацкіх дэпутатаў у Петраградзе яна выказала ідэю стварэння жаночага батальёна.

Ідэю падтрымаў **Керанскі**. Камандзірам батальёна прызначылі Бачкарову. У "Першы рускі жаночы Батальён смерці" набралася амаль дзве тысячы добраахвотніц. Сярод іх былі і дваранкі, і простыя сялянкі.

У батальёне панавала жалезная дысцыпліна:

*"...за любое, нават самае нязначнае яе парушэнне, будзе сур'ёзнае пакаранне. Усялякі флірт і нават намёк на яго будзе карацца адлічэннем і адпраўкай дадому пад канвоем. Батальён мае на мэце ўмацаваць дысцыпліну ў войску. Таму нам трэба быць бездакорнымі",* – звярталася Марыя да добраахвотніц.

Суровыя парадкі вытрымалі не ўсе: неўзабаве колькасць жанчын-добраахвотніц скарацілася да трохсот.

### У Маладзечне было поўна дэзерціраў

Пасля навучання і ўрачыстых праводаў батальён атрымаў загад рухацца да Маладзечна.

*"У Маладзечне знаходзілася каля тузіна казармаў. Амаль палову з іх займалі дэзерціры з фронту, былыя паліцэйскія і жандары, якіх з пачатку рэвалюцыі гвалтоўна завербавалі ў войска і якія неўзабаве адтуль ўцяклі. Былі там яшчэ крымінальнікі і бальшавіцкія агітатары. Адным словам, усякая набрыдзь".*

Жаночаму батальёну паступіў загад заняць пазіцыі на фронце ля Крэва. 8 ліпеня адбыўся першы бой батальёна. У кровапралітных баях, якія доўжыліся да 10 ліпеня, удзельнічала 170 жанчын.

Марыя апісвае адзін з баёў, калі большасць салдат адмовілася ісці ў атаку. Пайшлі жанчыны, афіцэры і асобныя салдаты:

*"Кожная секунда несла з сабой смерць. І ў галаве ў кожнага з нас была толькі адна думка: "Ці пойдуць салдаты за намі ці не?" У той трагічны дзень кожнае імгненне здавалася між сабою цэлым стагоддзем. Ужо некалькі нашых байцоў упалі пад агнём непрыяцеля, але за намі так ніхто і не пайшоў. Час ад часу мы азіраліся, пільна ўзіраючыся ў цемру ў чаканні падтрымкі, – але дарэмна. Толькі галовы вытыркаліся з акопаў ззаду нас".*

У баях Бачкарова была кантужаная. Яе адправілі ў петраградскі шпіталь. Пасля лячэння Марыя зноў вярнулася на фронт. Але сітуацыя стала яшчэ горшай, і ёй неўзабаве давялося распусціць батальён.

### "Не месца жанчыне на палях смерці"

Пасля захопу ўлады бальшавікамі, Бачкарова пабывала ў ЗША і Англіі. Там была на аўдыенцыі ў прэзідэнта Вільсана і караля Георга V. Прасіла іх аб дапамозе генералу Карнілаву.

Восенню 1919 адправілася ў Сібір, дзе **Калчак** прапанаваў ёй сфарміраваць жаночы ваенна-санітарны атрад.

У пачатку студзеня 1920 года Марыю арыштавалі прадстаўнікі савецкай улады. Яе расстралялі ў Томску 16 мая 1920 года.

Генерал **Дзянікін** ва ўспамінах пісаў: *"Я ведаю лёс батальёна Бачкаровай. Сустрэты ён быў зухаватым салдацкім асяроддзем насмешліва, цынічна. У Маладзечне, дзе стаяў першапачаткова, па начах даводзілася яму ставіць моцны каравул для аховы баракаў ...*

*Потым пачалося наступленне. Жаночы батальён, прыдадзены аднаму з карпусоў, доблесна пайшоў у атаку, не падтрыманы "рускімі багатырамі". І калі выбілася сапраўднае пекла непрыяцельскага артылерыйскага агню, бедныя жанчыны, забыўшыся тэхніку рассыпнога бою, сціснуліся ў купку – бездапаможныя, адзінокія на сваім участку поля, узрыхленага нямецкімі бомбамі. Панеслі страты. А частка "багатыроў" вярнулася назад, частка зусім не выходзіла з акопаў.*

*Аддадзім належнае памяці адважных. Але не месца жанчыне на палях смерці, дзе пануюць жах, дзе кроў, гразь і страты, дзе лютуе сэрца і страшна грубеюць норавы".*



Алесь ВЫСОЦКІ.
E-mail: alvy@tut.by

ГІСТОРЫЯ

# Як Івянец перажыў вайну

**ВАЛОЖЫН. Не ўсе паспелі, а некаторыя і не хацелі ісці ў эвакуацыю на ўсход. Якімі страшнымі былі чатыры гады вайны для тых, хто застаўся ў Івянцы, і як мястэчка выжылі, распавядае бібліятэкар Ігар Солтан.**

22 чэрвеня 1941, як мы ўсе ведаем, пачалася Вялікая Айчынная вайна. Савецкае кіраўніцтва ў спешным парадку пакінула Івянец. З ім адышлі і тыя, хто не хацеў альбо проста не мог застацца на акупаванай тэрыторыі. Пераважна гэта былі савецкія і партыйныя работнікі са сваімі сем'ямі.

Але, на жаль, многія актывісты не ведалі аб адыходзе і засталіся на месцы, як, напрыклад, Юры Ігнацевіч Южык, сакратар партячэйкі ў вёсцы Суднікі, альбо Антон Вікенцевіч Шыкуць, жыхар вёскі Камень, дэпутат Вярхоўнага Савета. Іх проста забыліся папярэдзіць.



Фота Ф. ЧАРНОЎСКАГА, radzima.org.

Помнік яўрэям, жыхарам Івянца, якіх расстралялі фашысты.

## У паліцыі служылі, каб зарабіць на хлеб

Немцы ўвайшлі ў Івянец 28 чэрвеня, на шосты дзень вайны. Яны адразу ж пачалі ўстанаўліваць свой "новы" парадак. Уся ўлада належала нямецкаму каменданту. Але яны стварылі і грамадзянскую адміністрацыю, на чале якой ставілі і мясцовых калабарацыяністаў, гэта значыць здраднікаў, якія супрацоўнічалі з ворагам. На чале раённай управы стаў нехта Булак, які пасля вайны ўцёк у Швейцарыю. Бургамістрам Івянца немцы прызначылі Зянона Бурака. Камендантам паліцыі быў прызначаны Стэфан Пазанскі – унтэрафіцэр былой польскай паліцыі. Курыраваў паліцыю нехта Нор – фальксдойч з Навагрудка.

У былых польскіх казармах уладамі, якія адказвалі за асвету, была створаная прафесійная школа, якой кіраваў праўнік Карачун. Спачатку працавала і школа, але падручнікі, па якіх вялося навучанне, былі перакладзеныя з нямецкай мовы.

Быў створаны так званы аддзел цэнтральнай гаспадаркі "Усход", кіраваў якім лейтэнант Розе, які стаў потым загадчыкам сельгасаддзела Івянецкай камендатуры. У гэтым аддзеле працаваў Казімір Дзяржынскі, брат Фелікса Дзяржынскага. Жонка Казіміра Дзяржынскага, Люцыя, працавала перакладчыцай у жандармерыі. Пачаўся набор у паліцыю. Служыць туды бралі пераважна з мясцовых. Служылі, па праўдзе кажучы, не з-за таго, каб помсціць бальшавікам, а каб зарабіць кавалак хлеба. А з 1942 года ў паліцыю масава ішлі людзі па заданні польскага падполля, каб у патрэбны час ударыць немцам у спіну. Таксама вядома, што частка паліцэйскіх была з Навагрудка, якія пагадзіліся служыць немцам, але не дома, а ў іншай мясцовасці. Каб у выпадку іх удзелу ў карных аперацыях ім не адпомсцілі. Але, на жаль, знаходзіліся і такія, як ветэрынар Гюнтэр, які амаль адкрыта супрацоўнічаў з гестапа.

## Партызанскі рух у Налібоцкай пушчы

З прыходам немцаў у Івянцы пачалася эпідэмія тыфу. Мясцовы шпіталь быў цалкам запоўнены хворымі. Многа людзей памерла. Амаль адразу ж пасля акупацыі ў Налібоцкай пушчы пачаў разгортвацца партызанскі рух. Арганізоўваць яго пачалі афіцэры НКВД, якія добра ведалі мясцовасць і тутэйшых людзей.

Спярша камандаваў савецкімі партызанамі супрацоўнік НКВД Сідарук, псеўданім Палкоўнік Дубаў. Намеснікам у яго быў маёр Васілевіч. Асобны састаў партызанскіх атрадаў спачатку фарміраваўся з акружэнцаў, якія трапілі ў кацёл у Налібоцкай пушчы. Потым быў створаны асобны атрад для палякаў. Камандаваў ім лейтэнант Клюшкаў.

Дзеянні партызан на пачатку акупацыі абмяжоўваліся зборам зброі і атакамі на нямецкія калоны з сельгаспрадуктамі, якія немцы назбіралі у выглядзе сельгаспадатку з сялян. У адказ на гэта немцы пачалі праводзіць карныя акцыі – нішчыць людзей і вёскі.

Пасля гэтага пайшлі ў партызаны і мясцовыя людзі, якім не было дзе дзецца і якія хацелі адпомсціць акупантам. Акупацыйны рэжым быў вельмі жорсткі. За любую правінасць немцы маглі пакараць смерцю. Асаблівай жорсткасцю славіўся начальнік СД (Службы бяспекі), ненавісны кат Івянца па мянушцы Чэх. Ён кожны дзень забіваў чалавека. Калі дзень абыходзіўся без гэтага, ён казаў: "Дзень прайшоў марна, я нікога не забіў, я сёння хворы і не ў гуморы".

## Івянецкае гета

Асаблівым злачынствам акупацыйнага рэжыму была ліквідацыя івянецкага гета.

З пачаткам вайны многія яўрэі не хацелі эвакуіравацца на ўсход, а з пачаткам акупацыі – ісці ў лес, бо помнілі па Першай сусветнай вайне, што немцы паводзілі сябе без асаблівай жорсткасці.

Ужо ў пачатку ліпеня 1941 года з мэтай кантролю за выкананнем сваіх загадаў і арганізацыі прымусовых работ, немцы прымусілі мясцовых яўрэяў стварыць юдэнрат. Пад страхам смерці яўрэям было загадана насіць жоўтыя шасціканцовыя зоркі.

Мясцовыя паліцаі пастаянна збівалі і рабавалі яўрэяў. Іх прымушалі выконваць чорныя і цяжкія работы, выкарыстоўвалі як рабоў пры ўборцы вуліц, канюшняў, іншага.

14 ліпеня 1941 года 14 яўрэяў – мужчын маладога і сярэдняга ўзросту, прадстаўнікоў інтэлігенцыі – эсэсаўцы з Валожына з дапамогай мясцовай паліцыі і некаторых мясцовых жыхароў арыштавалі і па надуманай прычыне звезлі і расстралялі. Так немцы рабілі ў большасці выпадкаў, адразу забіваючы патэнцыйна магчымых арганізатараў супраціву.

5 верасня 1941 года ў Івянец прыбыла зондэркаманда і пры дапамозе івянецкай паліцыі забіла каля 50 яўрэяў. 10 лістапада 1941 года нацысты, рэалізуючы гітлераўскую праграму знішчэння яўрэяў, сагналі тых, хто застаўся – у большасці старых, дзяцей, жанчын і хворых, – у гета, абмежаванае вуліцамі Камсамольскай, Куйбышава.

11 лістапада яўрэяў прымусілі самім паставіць плот, які акружыў гета з трох бакоў, а з чацвертага граніцай гета стала рака (што дапамагло зрабіць некалькі уцёкаў, асабліва зімою па лёдзе).

## На малых дзяцей у гета куль не трацілі

Гета было абгароджана калючым дротам і ахоўвалася паліцыяй і нямецкімі салдатамі.

У сярэдзіне гета ў кожную хату засялілі па некалькі сямей, вымушаных жыць у надзвычай цесных умовах і пры поўнай адсутнасці медыцынскай дапамогі. Асноўнай ежай была бульба, якую тайна мянялі за рэчы альбо іншыя каштоўнасці ў мясцовых сялян. Кожны дзень яўрэяў ганялі на прымусовыя работы.

З-за такіх умоў пачалося масавае выміранне. На вызваленыя месцы немцы прывозілі яўрэяў з Волмы, Рубяжэвічаў, Налібак і іншых вёсак. Нягледзячы на гэтыя ўмовы, у дзвюх сінагогах, якія знаходзіліся на тэрыторыі гета, праходзілі рэлігійныя службы.

У красавіку 1942 года немцы сабралі 120 самых працаздольных мужчын. Майстроў-спецыялістаў пехатой накіравалі ў Навагрудскае гета, а астатніх у якасці чорнарабочых накіравалі ў распараджэнне арганізацыі "ТОДТ" у Дварэц. Па дарозе многія загінулі ад голаду. У красавіку 1942 года немцы і паліцаі знішчылі ў гета 120 яўрэяў.

1 чэрвеня 1942 года вязняў гета ад 15 да 55 год сагналі у памяшканне былых польскіх казармаў, збілі іх, і, пратрымаўшы там запёртымі цэлую ноч, адправілі пешшу ў Любчу і далей цягніком у Навагрудак. 8 чэрвеня 1942 года немцы сабралі 40 чалавек з вуліцы 17 Верасня, прывялі іх ва ўрочышча "Пішчугі", каля дарогі Івянец – Пяршаі, далі ім рыдлёўкі і загадалі выкапаць вялікую і глыбокую яму.

У гэты ж самы дзень у Івянец прыехалі 2-3 машыны з літоўскімі паліцаямі. На наступны дзень, 9 чэрвеня 1942 года, усе яўрэі былі ранкам сабраныя. У лес іх вывозілі часткамі. Там іх ставілі каля магілы і расстрэльвалі з кулямётаў. На малых дзяцей куль не трацілі. Іх бралі за ногі і білі галавой аб дрэва, а потым кідалі ў яму і пры гэтым не правяралі, ці жывое яно, ці не. Таксама не правяралі і дарослых, якія былі толькі параненыя, кідалі проста ў яму і ўсё. Цэлы ў яме засыпалі вапнай.

**Ігар СОЛТАН, бібліятэкар Івянецкай бібліятэкі.**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

**7 сакавіка.** 120 гадоў з дня нараджэння Тамаша Грыба (1895 – 1938), беларускага палітычнага і культурнага дзеяча.

***

**85 гадоў** з дня нараджэння Яраслава Пархуты (1930 – 1996), беларускага пісьменніка.

***

**10 сакавіка.** 95 гадоў з дня нараджэння Аркадзя Марціновіча (1920 - 2009), беларускага празаіка, паэта, заслужанага работніка культуры Беларусі.

***

Сёлета спаўняецца 175 гадоў (1840) з дня нараджэння Зыгмунта Мінейкі-Газдавы, грамадскага дзеяча, вайскоўца, навукоўца, рэвалюцыянера. Меў псеўданім Баравы. Нарадзіўся ў Балванішках Ашмянскага павета Віленскай губерні, цяпер Зялёны Бор Ашмянскага раёна. Кіраўнік паўстання 1863–1864 гадоў у Ашмянскім павеце. Арганізаваў аддзел, які ў першым жа баі 3 чэрвеня 1863 года з расейскімі войскамі ля Расолішкаў быў разбіты. А ён арыштаваны і пасаджаны ў віленскі астрог. Суд прыгаварыў яго да павешання. Але маці дала хабар, і павешанне замянілі на 12 гадоў катаргі ў Сібіры. На шляху паміж Табольскам і Томскам памёр сябар Зыгмунта Струміла, які меў найменшы тэрмін адбыцця і быў звонку вельмі падобны да яго. Скарыстаўшыся гэтым, Мінейка выдаў сябе за Струмілу і застаўся ў Томску як вольны пасяленец. У Сібіры адзін з кіраўнікоў рэвалюцыйнай арганізацыі ссыльных. У 1865 годзе ўцёк за мяжу. Праз нейкі час у Парыжы, дзе сустрэўся з Напалеонам III. Яму расказаў пра французаў-удзельнікаў паўстання, што адбывалі пакаранне ў Сібіры. Вязні былі вызваленыя, а Мінейка атрымаў ва ўзнагароду магчымасць дармовага навучання ў Акадэміі Генштаба ў Парыжы. Будаваў масты і чыгункі ў Балгарыі, Турцыі і Грэцыі. Удзельнічаў у 1870 годзе ў франка-прускай вайне, у часе Парыжскай Камуны змагаўся на баку камунараў. Пасля перабраўся ў 1891 годзе ў Грэцыю. Займаўся археалогіяй. Склаў этналагічную карту Эпіра, напісаў шматлікія работы па тапаграфіі, за што парламент Грэцыі ў 1910 годзе надаў яму званне ганаровага грамадзяніна краіны. Удзельнічаў у будаўніцтве і ўзнаўленні алімпійскіх аб'ектаў, у тым ліку легендарнага Мармуровага стадыёна – сімвала Алімпійскіх гульняў. У 1921 і 1922 гадах наведаў Беларусь. Быў актыўным масонскім дзеячам. Меў 9 дзяцей. Памёр 27 снежня 1925 года ў Грэцыі.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Дзеці школы-інтэрната шукаюць адказы

**МАЛАДЗЕЧНА. Добрае слова, у час заўважаныя прычоска ці абноўка прыносяць ім радасць. Для іх важна атрымліваць тое, што дае сям'я. Чаму сіроты школы-інтэрната 2 для дзяцей са слабым зрокам засталіся без бацькоў? Хто яны і што іх хвалюе? Ці шукаюць сваіх сваякоў і ці знаходзяць месца ў жыцці?**

– Само слова "сірата" гаворыць аб тым, што праблемы існуюць. Дзеці патрабуюць цяпла. Звычайнага сямейнага цяпла, – распавядае пра сваю працу сацыяльны педагог з 25-гадовым стажам **Вольга Сурма**. – Таму наша функцыя ўдвайне ўскладняецца. Мы прыходзім не толькі на працу, а як да сябе дадому. Мы павінны іх абагрэць цяплом, ласкай. Пачуць, што каму трэба раніцай, што каму трэба ў абед, што каму трэба вечарам, калі яны кладуцца спаць.

### Чаму дзеці сталі сіротамі

Адны з-за смерці бацькоў. Яны ўжо неяк звыкліся са сваім статусам, зазначае Вольга Сурма. Ім менш балюча ўспрымаць тое, што яны сіроты. Нават калі хтосьці неасцярожна скажа пра гэта, могуць і ўвагі не звярнуць.

Дзвюх дзяўчынак пакінулі ў дзіцячым доме адразу пасля нараджэння. Такіх дзяцей тут называюць адказнічкамі.

У асноўным жа дзеці застаюцца адны з прычыны алкагалізму бацькоў. Яны найбольш балюча перажываюць сваё становішча.

### Дзеці просяць у педагогаў парады, як у бацькоў

– Гады чатыры таму, калі прыйшла сюды, меркавала будаваць сваю кар'еру ў іншым кірунку, – распавядае спадарыня Вольга. – Дапамагаць дзецям уліваццa ў соцыум. Працаваць са з'явамі, характэрнымі для ўсяго нашага грамадства. Але я ўбачыла, што гэтыя дзеці патрабуюць ад нас адказаў на элементарныя пытанні, якія звычайна задаюць бацькам: "Ці добра я падабрала блузку?", "Як вам мая прычоска?" Часам прыходзіш дамоў пасля працы і з мужам няма сілы паразмаўляць. Першыя гады я не думала, што змагу тут працаваць доўга. З доследам я навучылася пакідаць працу на парозе дома.

У абавязкі сацыяльнага педагога ўваходзіць у канцы тыдня распісвацца ў дзённіках замест бацькоў. Дзеці прыходзяць, звяртаюцца. Хтосьці хваліцца добрымі адзнакамі, хтосьці перажывае і просіць парады: што рабіць, як быць.

– Ты ў гэтым асяроддзі жывеш, – кажа спадарыня Вольга. – Вось тут тваё жыццё. Твая сям'я, твая праца, тваё ўсё.

### Сіротам разам з сямейнымі дзецьмі камфортна

У школе-інтэрнаце №2 вучацца не толькі сіроты. Сюды ідуць звычайныя дзеці, якія маюць праблемы са зрокам.

І ўсе яны займаюцца разам. У адны класы ходзяць, у адных пакоях жывуць.

**У школе вучыцца 107 дзяцей. Сярод іх 73 інваліды па зроку і 30 сірот.**

– Сіротам побач з сямейнымі дзецьмі вельмі камфортна. Я нават сказала б, што сіроты ў нас больш адаптаваныя. Яны не хаваюцца ў сабе, адкрытыя і раскаваныя, – кажа сацыяльны педагог. – Таму калі яны ад нас выходзяць, то без асаблівых складанасцяў уладкоўваюцца ў жыцці. Нават адзін хлопчык, як толькі выйшаў з інтэрната, адразу стварыў сваю сям'ю. У яго ўжо і дзіця нарадзілася. Цудоўная сям'я!

Адсутнасць сямейнага ачага часцей адбіваецца, калі сіроты паступаюць вучыцца ў каледж ці ВНУ. Тады ім хочацца прыехаць у інтэрнат, але ж з гэтага гнязда яны ўжо выйшлі.

Адзін хлопчык, што два гады таму скончыў школу-інтэрнат, перыядычна прыязджае, бывае ў гасцях у свайго былога аднакласніка.

### Чаму ў мяне няма сям'і?

Дзеці прыходзяць да педагогаў з самымі балючымі, незразумелымі ім пытаннямі.

– Могуць запытацца: "А чаму ў мяне няма сям'і?" І сацыяльны педагог, псіхолаг ці класны настаўнік павінны тут жа зарыентавацца. Каб дзяцей, з аднаго боку, і не пакрыўдзіць, а з другога, пакінуць надзею.

І як зазначае сацыяльны педагог, не ўсе, але некаторыя пасля заканчэння інтэрната спрабуюць адшукаць сваіх бацькоў.

**Шмат фота, а таксама відэа шукайце на нашым сайце rh.by. Вы зможаце самі ўбачыць жыццё школы-інтэрната знутры і адчуць яе атмасферу.**



Фота Настасі РОЎДЫ.

"Вось так мы ўмеем", – кажуць дзяўчынкі са школы-інтэрната №2. Мосцік зрабіла Аліна, пад мосцікам – Насця. Яе гісторыю чытайце ніжэй.

## Дырэктарка школы: "Я ганаруся нашымі дзецьмі"

**Для дырэктаркі школы-інтэрната Наталлі Глінскай школа як сям'я. І дзеці тут як свае. Гэтак жа прыносяць шчасце, але часам могуць і ўтварыць што-небудзь.**

– Ніколі не расплануеш працоўны дзень, – кажа Наталля Глінская. – Заўсёды ёсць нейкія сюрпрызы. То штосьці разбілі, то камусьці ў нос далі, то цукеркі з'елі, то штосьці сцягнулі, то паста знікла. Карацей, не сумна. Усе пытанні мы імкнёмся вырашаць разам. Дзеці ведаюць, што да мяне можна звярнуцца ў любы час. Бываюць і не вельмі прыемныя сітуацыі, але я ведаю пра ўсё, што адбываецца ў школе.

Унутры школьных калектываў ёсць свае нефармальныя лідары. У такіх сітуацыях менавіта яны дапамагаюць вырашаць праблемы, прычым без умяшальніцтва дарослых.

– Я адразу запрашаю такога лідара да сябе і кажу: "Ёсць дзве гадзіны, каб вы самі знайшлі таго, хто штосьці сцягнуў". І вельмі хутка ўсе пытанні знікаюць, таму што ў адваротным выпадку я магу, да прыкладу, забараніць дыскатэкі ці выхад у горад на месяц. У іх унутры калектываў кіпіць сваё жыццё. Бывае, што і паўпчуваю, гэта таксама важна. Аднак дзеці ніколі не крыўдуюць і не злуюцца, – заўважае спадарыня Наталля.

Яна працуе ў школе ўжо дзясяты год. І ўспрымае гэта як добры вынік сваёй працы.

– Часам мне мой бацька гаворыць: "У цябе працы больш, чым у старшыні калгаса. Ты сыходзіш у сем раніцы і прыходзіш а палове дзявятай вечара". А я адказваю: "І дзякуй богу, што ў мяне такая работа. Я яе вельмі люблю. І ганаруся і нашай школай, і нашым калектывам, і нашымі дзецьмі", – падсумоўвае дырэктарка школы.



Настасся РОЎДА
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com

## Лёс Насці з інтэрната

Вольга Сурма працуе з дзецьмі ў школе-інтэрнаце пяты год. У гэты ж час прыйшла і Насця. Цяпер яна якраз у пятым класе.

– Насця становіцца дарослай на маіх вачах, – кажа спадарыня Вольга. – Калі ёй было шэсць ці сем гадоў, яе ўзяла да сябе прыёмная сям'я. На вялікі жаль, гэтая сям'я ад яе адмовілася і дзяўчынку вярнулі ў інтэрнат.

Летась сям'я з Мінска, якая выхоўвае дзяцей у доме сямейнага тыпу, пагадзілася на патранатнае выхаванне: брацЬ яе на выхадныя і на канікулы. Патранатнае выхаванне не абавязвае бацькоў запрашаць сірот кожныя выхадныя ці канікулы.

Калі яны маюць такую магчымасць, то забіраюць дзяцей. А калі не забіраюць – дзіця адчувае дыскамфорт.



Фота Настасі РОЎДЫ.

Наталля Глінская, дырэктарка маладзечанскай школы-інтэрната №2 для дзяцей са слабым зрокам.



Фота Настасі РОЎДЫ.

Вольга Сурма, сацыяльны педагог: "Калі мы ўсім грамадствам будзем адносіцца да ўсіх дзяцей з любоўю і ласкай, то яны ніколі не будуць адчуваць сябе пакрыўджанымі ці ў нечым абдзеленымі".

# Я была проста жонкай

## Зінаіда Каханоўская і Надзея Харашэвіч распавядаюць пра сваіх мужоў, якіх ведалі ўсе, тое, чаго не ведаў ніхто

### Зінаіда Каханоўская

– Зіначка, глянь, колькі кветак я сёння прынёс! – у двары з'яўляецца шчаслівы **Генадзь Каханоўскі** з вялікім ахапкам кветак. Ён вяртаецца з чарговай сустрэчы, радасны, усміхаецца. Кветкі любіў вельмі-вельмі. І з кожнага падарожжа прывозіў насенне. У доме ў вялізнай падлогавай вазе ўвесь час стаялі каласы ці валошкі.

І цяпер летам расце безліч кветак ля дома, дзе жыў Генадзь Каханоўскі. Ён пайшоў з жыцця 21 год таму.

Як і пры Генадзю Аляксандравічу, за кветкамі даглядае дачка **Таццяна** і жонка, **Зінаіда Пятроўна**:

– Заўсёды мужа называла Геначкам. А ён мяне ва ўспамінах Зіначкай назваў, – вочы Зінаіды Пятроўны напаўняюцца слязьмі. – Дасць бог, **Саша** (сын Генадзя Каханоўскага) кнігу пра бацьку напіша. Даўно ўжо пра гэта марыць. Вось скончыць доктарскую дысертацыю – і напіша.

Знаёмыя мы з Генам былі ўсё жыццё, з адной вёскі Дамашы. Гена сябраваў з маім братам, часта ў госці прыходзіў. Шкадавала мая сям'я Геначку. Яны ж жылі бедна, цяжка. У Гены з маладосці здароўя не было, вельмі худзенькі быў, але заўсёды вясёлы, жыццярадасны.

Гаспадаром ён фактычна не быў. Я і дзяцей выхоўвала, і бацькоў сваіх даглядала, на працу хадзіла. Гена мне толькі аднойчы сказаў: "Не так мы з табой, Зіначка, дзяцей выхавалі". Меў на ўвазе тое, што сумленнаму чалавеку ў нашым свеце жыць цяжка.

**А сам быў вельмі сумленным. Мог нават заплакаць, калі бачыў, што робіцца нейкая несправядлівасць. І смяяўся заўсёды шчыра, да слёз. Мог аж захліпацца.**

Бывала, што сварыліся. Сам Геначка гаварыў, што ж гэта за жыццё, калі ў сям'і паміж мужам і жонкай няма гыргыр. Памятаю, як дачка Таня, калі бачыла, што я пакрыўдзілася і выходзіла на кухню, брала бацьку за руку і вяла да мяне. Гена тады пачынаў смяяцца, і мы мірыліся, – з'яўляецца на твары ў жанчыны лёгкая ўсмешка.

Акрамя таго, што Генадзь Каханоўскі быў гісторыкам, краязнаўцам, ён быў яшчэ выдатным... тамадой.

– У шафе да сёння ляжыць вялікі стос ручнікоў, якія засталіся ад усіх вяселляў, куды Гену запрашалі сватам. Толькі ён так прыгожа, па-беларуску, мог павіншаваць жаніха з нявестай, – упэўнівае Зінаіда Пятроўна.

Генадзь Аляксандравіч для многіх пар быў талісманам. Яго запрашалі ў ЗАГС віншаваць маладых. Пары самі прасілі, каб на вяселлі быў Каханоўскі. Знаёмыя адзін аднаму расказвалі, што, калі павіншуе Генадзь Аляксандравіч, то такія пары будуць жыць шчасліва.

– Быў месяц, калі мы кожны тыдзень хадзілі на вяселле. Дзеці нават прасілі, каб мы пабылі з імі, засталіся дома. А дома вельмі рэдка даводзілася бываць толькі сваёй сям'ёй. Увесь час у нас былі нейкія госці. Бывала, раніцай, у нядзельку, толькі ўстанеш, пойдзеш на кухню, а ў хаце ўжо поўна народу. Даводзілася сняданак гатаваць на ўсіх. Я часам нават абрусы мыць не паспявала.

Генадзя Каханоўскага не стала ў студзені 1994 года. Яму было 58 гадоў.

– Апошні дзень Геначкі памятаю вельмі добра. Ён увесь дзень пытаўся ў нас з дачкой: "Дзе Саша? Ці хутка прыйдзе Саша?" А Саша быў на працы. Калі прыехаў, сеў на канапу побач з бацькам, я села па другі бок. Дачка Таня сядзела насупраць. Так ён і памёр у нас на руках. Якім быў Геначка? Ён быў святым чалавекам. Інакш не магу сказаць. Вёску любіў, бабулек любіў. Заўсёды на вуліцы з суседкамі павітаецца, пагутарыць. Людзей любіў, выступаць перад людзьмі.

Аднойчы Генадзя Каханоўскага запрасілі выступаць на з'ездзе беларусаў свету. З'езд той два дні быў. Дамовіліся, што ў першы дзень Генадзь выступіць, а на другі не паедзе. Хворы ён быў. Аднаго адпускаць баяліся. Паехала Таццяна з ім.

– А назаўтра мы з дзецьмі паехалі ў чарніцы. Генадзь дома застаўся. Вярнуліся – няма бацькі ў хаце. Як мы перапужаліся!

**Аказалася, што яму патэлефанавалі і вельмі прасілі быць на з'ездзе. Не мог ён адмовіць нікому.**

І сёння, праз 20 год, Зінаіда Пятроўна плача, калі гаворыць пра мужа:

– Я гадоў сем пасля пахавання не жыла. Проста існавала на аўтамаце. Калі дужэйшая была, на могілкі ездзіла кожны дзень. Крычала на ўсю моц. Сёння Геначка, хоць рэдка, але прыходзіць у снах. Сны тыя светлыя. У іх я звычайна раюся з Геначкам, прашу парады, як і пры яго жыцці.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Зінаіда Пятроўна, жонка Генадзя Каханоўскага.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Надзея Рыгораўна, жонка Кастуся Харашэвіча.

### Надзея Харашэвіч

Калі **Надзея Харашэвіч** вучылася завочна ў інстытуце, **Кастусь Іванавіч** з сынам **Алегам** чакалі маму на балконе: "Ну, як адвучылася?". Надзея Рыгораўна паказвае пяць пальцаў. "Як жа яшчэ магло быць, гэта ж наша матуля!"

Кастуся Харашэвіча, аднаго з найстарэйшых мастакоў Маладзечаншчыны, не стала ў ліпені 2013 года, калі яму было 86 год. Але яго жонцы Надзеі Рыгораўне і цяпер падаецца, што вось ён зараз зойдзе ў пакой.

– Пра мужа я многа чаго магу расказаць, а пра сябе... ну што пра сябе? Я была проста яго жонкай, – пачынае размову Надзея Харашэвіч.

Яны пазнаёміліся, калі працавалі ў адной школе. Кастусь Іванавіч дапамагаў маляваць зорачкі, якія пасля наклейвалі тым, хто запар атрымаў пяць пяцёрак.

– Настаўнікі заўважылі, што зорачкі маляваў толькі мне. Праз два месяцы пасля вяселля жылі ў нейкай прыбудове ў кепскіх умовах. Прыходжу з працы на 8 сакавіка. А Косця ўзяў недзе шпалеры і зрабіў вялікі плакат-віншаванку. А чым ён мяне пакарыў? Напэўна, сваёй прастатой. Хаця ў мяне вышэйшая адукацыя, а ў яго мастацкая вучэльня, ён быў нашмат разумнейшы за мяне. Некаторыя хлопцы імкнуцца паказаць сябе як мага лепшымі, з імі лішняе слова баішся сказаць. Ён жа – свой, з ім заўсёды было лёгка, проста. Вось ён такі.

Кастусь Іванавіч ганарыўся сваёй жонкай, яе поспехамі ў вучобе. Калі вучылася, трэба было і з сынам пабыць, і павучыцца. Мастак таксама многа працаваў.

– Шэсць гадзін раніцы – яго няма. Я збіраю сняданак і нясу ў майстэрню. Вечарам мог і да дзесяці працаваць. Толькі днём прыходзіў адпачыць хвілін сорак. Пасля трэцяга інфаркту ён працаваў менш, але працаваў. За апошнія два месяцы на лецішчы напісаў каля 20 работ.

Надзея Харашэвіч захаплялася працавітасцю мужа:

– Я паважала яго любоў да Радзімы, сваёй Беларусі. Заахвочвала яго апантанасць. Люблю яго работы. На некаторыя гляджу і думаю: "Вось я ж тут была", мне так і іншыя гавораць. Ён ніколі не ведаў, якая ў яго пенсія, толькі прасіў адкласці пэўную суму на фарбы. Некалі прапанавала выгадна два касцюмы набыць – не, "мне лепей фарбы". Па доме нічога не прымушала рабіць, аберагала пасля інфарктаў. Працаваў над карцінамі без выхадных, а калі ўжо вырашаў адпачыць, то рыбачыў, асабліва на Нарачы любіў, на возеры Рудакова. Іграў амаль на ўсіх музычных інструментах. А як іграў, вам не расказаць! Такая музыка лілася!

Надзвычай цяжка перажывала сям'я трагедыю, калі іх сын пайшоў з жыцця.

– Косцю было каля 60 год. Здарыўся першы інфаркт. Ён частку сваіх работ утапіў у рэчцы. Пасля рэанімацыі, калі мы з ім былі ў палаце, ён даказваў, што жыццё закончанае. Угаворвала ў памяць сына наладзіць выставу, таму што сын ганарыўся, што бацька мастак. Яму было цяжка хадзіць, я вадзіла ў паліклініку, прымушала жыць. Толькі дзякуючы такой настойлівасці змагла яго падняць. Мне таксама было вельмі цяжка. Але я была сярод людзей, яшчэ працавала ў школе. А ён заставаўся адзін. Два тыдні ляжаў і не ведаў, якое надвор'е. Добра, калі за дзень прымушала слоічак смятаны з'есці. Толькі ўгаворы, што сын марыў прывесці на выставу сваіх сяброў, змаглі яго падняць. Той першы перыяд дапамагло перажыць і лецішча – іншая абстаноўка, прырода.

Надзея Рыгораўна паважае і тое, як Кастусь Іванавіч клапаціўся пра агульныя справы, пра іншых людзей.

– Мне крыўдна за яго. На кожнай імпрэзе яго запрашалі першага выступаць. Ніколі не пісаў чарнавік, адразу меў, што добрага сказаць. Дзякуючы яму ў Маладзечне пачала працу мастакоўская студыя, у яго столькі вучняў. Усе здзіўляліся, што ў невялікім горадзе столькі мастакоў. Ніхто не абіваў парогі, каб мастакам выдзелілі майстэрні, толькі Косця. Усё гэта адбірае нервы, а ён адказваў: "Хто, калі не я".

**Першую майстэрню ён аддаў Пашкевічу, другую Герасіменку і толькі трэцюю ўзяў сабе.**

Але гарвыканкам падмануў Косцю. Перавялі яго ў іншую майстэрню, абяцалі, што там будуць усе ўмовы. А на справе там восем градусаў, халадзіна. Гэта моцна падкасіла здароўе. Добрымі словамі ўзгадваю былую загадчыцу аддзела культуры **Надзею Сідарэнку**. Цяпер увага да мастацтва, на жаль, знікае.

Жонка мяркуе, што памяць Харашэвіча слаба ўшанаваная.

– Няўжо горад не можа ацаніць тое, што зрабіў Харашэвіч? Мне цяпер вельмі цяжка без яго. Некаторыя раяць прадаваць яго карціны, але я не магу. Ён тут, у сваіх работах. Цяпер я разумею, што сям'я – самае галоўнае ў жыцці, варта было больш часу праводзіць з сынам і мужам.

**Старонку падрыхтавалі: Наталля ТУР, Зоя ХРУЦКАЯ, Настасся РОЎДА.**



Фота забяспечана Вольгай ТРУБАЧ.

Аляксей Сабельнікаў характар падарожніка выпрабоўваў у зімовым лесе.

● У ДАРОЗЕ

# Як вандроўка змяняе людзей

**СМАРГОНЬ. МАЛАДЗЕЧНА. Дарога – гэта стан душы, светаўспрыманне, а не дасягненне запланаванага пункта на карце.**

Менавіта такога падыходу трымаюцца героі спецыяльнай рубрыкі "У Дарозе", якую распачала арганізатар і аматар вандровак **Воля Трубач**.

У гэтай рубрыцы аўтар не будзе даваць справаздачы аб паходзе, у фокусе яе ўвагі – чалавек "у Дарозе".

Рубрыку пачынаем расповедам пра турызм у жыцці двух жыхароў нашага рэгіёна.

## Турызм і аматарскі веласпорт дапамагаюць загартавацца

**Аляксей Сабельнікаў** "у Дарозе" пяць год, актыўны ўдзельнік суполкі ў сацыяльных сетках "Вела-Смаргонь". Такім спосабам вывучае родную Смаргонь і яе ваколіцы, Беларусь. Быў у Малдове і ва Украіне.

– Турызм і аматарскі веласпорт – мае любімыя заняткі, – дзеліцца Аляксей. – Яны дапамагаюць мне загартавацца, праявіць сябе ў складанай сітуацыі. Толькі ўявіце, вы ў зімовым лесе, на вуліцы -20, ісці яшчэ далёка, а ў заплечніку замест тушанага мяса і чаю толькі грошы. У такіх умовах сапраўды выпрабоўваецца сіла духу чалавека.

Аляксей заўважае, што без падрыхтоўкі нельга сесці на ровар і паехаць на далёкія адлегласці.

– Трэба паклапаціцца пра рыштунак, фізічна падрыхтаваць сябе да падарожжа, – раіць турыст са стажам. – Пачаць можна з паходу на невялікія адлегласці ў некалькі дзён.

Хадзіць у паходы Аляксей раіць усім. Напрыклад, у марафоне "Налібокі" ў 2013 годзе ўдзельнічала маладая пара з двухгадовым дзіцем.

– Часта ўспамінаю гісторыю знакамітага расійскага велавандроўніка **Георгія Ганчарова**, – працягвае Аляксей. – Яму тады было 75 гадоў, калі ён здзейсніў велапаход вакол Аўстраліі.

**За 87 дзён мужчына прайшоў адлегласць у 12 тысяч 600 кіламетраў.**

Такое часам не пад сілу 30-гадовым мужчынам. Гэта сапраўдны подзвіг, на маю думку.

## Людзі не ведаюць месцаў, дзе жывуць

Аляксей Сабельнікаў здзіўляецца таму, што многія бавяць свой вольны час, лежачы на канапе. Калі і выязджаюць на прыроду, то ў людныя месцы, з горамі смецця. Ён жа прыхільнік актыўнага адпачынку.

– Аднойчы да мяне прыехалі знаёмыя з Мінска, – расказвае велавандроўнік. – Папрасілі паказаць наваколле Смаргоні. Мы праехалі каля 100 кіламетраў. Убачылі Вілію, шыкоўныя лясы, палі. Я ўпэўнены, што многія смаргонцы не ведаюць гэтыя мясціны, абмінаюць іх.

## Горы – мая рэлігія

Інструктар-метадыст маладзечанскага турыстычнага клуба "Пілігрым" **Іна Высоцкая**, "у Дарозе" 28 гадоў.

– Турызм навучыў мяне верыць у свае сілы, а гэта якасць дапамагае мне штодзень, – дзеліцца досведам жанчына. – Падчас вандровак можна навучыцца назіраць за псіхалогіяй чалавека.

**Часам у некаторых людзей выяўляюцца тыя якасці характару, пра якія не думаў і сам чалавек.**

Таксама вандроўнікі атрымліваюць для сябе новы досвед.

Жанчына раіць хадзіць у паходы моладзі, каб паспрабаваць свае сілы. Яна шкадуе, што пачала займацца турызмам пасля ўніверсітэта, а не раней.

Іна Высоцкая была кіраўніком паходаў у Казахстан, Туркменію, Карэлію, на Паўднёвы Урал, Каўказ, Крым, Карпаты.

Сваім крэдам Іна лічыць цытату турыста Анатоля Букрэева: "Горы – гэта не стадыёны, дзе я задавальняю свае амбіцыі, горы – гэта храм, дзе я вызнаваю маю рэлігію".

**У наступных нумарах чытайце пра турыстычныя маршруты.**



Воля ТРУБАЧ.
E-mail: ydaroze@mail.ru.

● ХАКЕЙ

# ХК "Дынама-Маладзечна" скончыў сезон. Тры паражэнні ад "Юнацтва" запар

**МАЛАДЗЕЧНА. Хакейны клуб "Дынама-Маладзечна" завяршыў свой першы сезон у чэмпіянаце краіны, праіграўшы тры гульні запар мінскаму "Юнацтву".**

З першых хвілін трэцяй сустрэчы сапернікаў, якая адбылася ў Лядовым палацы 3 сакавіка, стала зразумела – гаспадары былі настроены рашуча. Вострыя атакі маладзечанцаў раз-пораз завяршаліся стрэламі па варотах "Юнацтва".

Двойчы запар мінчане парушылі правілы і заставаліся гуляць утрох супраць пяцёркі дынамаўцаў. Падначаленыя **Дзмітрыя Краўчанкі**, скарыстаўшыся сітуацыяй, закінулі сваю першую шайбу – **Максім Маміканьянц** удала сыграў на пятачку.

Адсунуць гульню ад сваіх варотаў сталічным хакеістам дапамаглі выдаленні дынамаўцаў – два моманты "Юнацтва" рэалізавала.

Шэсць разоў у другім перыядзе маладзечанцы заставаліся ў меншасці. Тройчы госці скарысталіся перавагай гульцоў і давялі лік да 1:5 на сваю карысць.

У гэтай сітуацыі "зубры" маглі дзейнічаць толькі на контратаках, ды і тое з аглядкай на свае вароты, на жаль, закінуць галкіперу гасцей не атрымалася. Заключныя хвіліны паядынку прайшлі ў роўнай барацьбе. Дынамаўцы з усіх сіл стараліся адыграцца, мінчане ў абароне не адседжваліся і таксама паграажалі варотам **Міхаіла Карнавухава.**

Аднак у выніку – паражэнне з лікам 1:6. Паражэнне ў серыі – 1:3. Сезон скончаны.

Галоўны трэнер ХК "Дынама-Маладзечна" Дзмітры Краўчанка падсумаваў вынікі сезона наступным чынам:

– У мяне дваякае ўражанне аб канцоўцы матчу. З аднаго боку – пазітыў, з другога – негатыў. Неабавязковы гол у распранальню. Тут як і ў жыцці – паласа белая, паласа чорная. Спадзяемся, што ў наступным сезоне будзе больш белых палос. Засмучэння як такога няма. Яго і не можа быць. Мы на свае вочы паглядзелі наколькі можам канкураваць з камандамі, якія пастаянна гуляюць у прызёрах. Дзякуй хлопцам за тое, што аддаваліся! Наш калектыў пакуль не можа доўга трымаць гульні з моцным супернікам. У нас такі налёт быў, ведаеце, азарт маладзецкі. Магчыма, недзе гэта і адыграла сваю ролю. У адносінах рабят у мяне няма ніякіх прэтэнзій. Вельмі добра было працаваць. Плюс пазітыўная атмасфера ў горадзе, заўзятары падтрымлівалі – прыемна! Вялікі ім дзякуй! Мы гулялі не толькі за "Дынама", але і за Маладзечна. Хочацца аддавацца на гульні для людзей, якія прыходзяць пасля працы, падтрымліваюць і аддаюць свае эмоцыі. Для гэтага ўсе будзем рабіць па-максімуме!

**Аддзел інфармацыі**

● НАВІНЫ

## Пачалі з перамогі

**СМАРГОНЬ.** ФК "Смаргонь" 28 лютага правёў першы таварыскі матч у сезоне. Дома, на штучным полі ДЮСШ, смаргонцы гулялі з клубам трэцяга дывізіёна "Прамень" з Мінска.

"Смаргонь" выйграла з лікам 5:0, расказаў прэс-аташэ клуба **Уладзімір Амбрасевіч**. Дублем адзначыўся **Калінін**.

## Тры перамогі запар

**СМАРГОНЬ.** Смаргонская "Вілія" 1 сакавіка атрымала перамогу ў гульні вышэйшай лігі чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе. Дома смаргонцы адолелі "Гродзенскі" 5:4.

– У другім тайме прайгравалі 2:4. Але здолелі прыбавіць у канцоўцы і ў выніку выйгралі, – расказвае гулец "Віліі" **Віталь Будай**.

Да гэтага матча "Вілія" атрымала яшчэ дзве перамогі. Над Лідскай ДСПМК-72 (9:6) і "Энергіяй" з Зэльвы (10:4).

"Вілія" пакуль займае шостае месца.

## Маладзечанцы згуляюць у фінале чэмпіянату вобласці па міні-футболе

**МАЛАДЗЕЧНА.** Каманда Маладзечанскага раёна, адзіная з рэгіёна, прабілася ў фінал чэмпіянату Мінскай вобласці па міні-футболе. Яна заняла першае месца ў сваёй групе ў папярэдніх гульнях.

Фінальныя гульні пройдуць 14-15 сакавіка ў Слуцку. Маладзечанцам будуць супрацьстаяць каманды Дзяржынскага, Любанскага раёнаў, "Слуцкцукар" і СП "Фрэбор" з Барысава.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● ВАЛЕЙБОЛ

# На трынаццатым турніры перамаглі валейбалісты з "Надзеі"

**ВІЛЕЙКА. Ад 28 лютага да 1 сакавіка праходзіў традыцыйны штогадовы турнір па валейболе на прызы дзіцячага цэнтра "Надзея". Гэта ўжо 13-ы па ліку турнір.**

У цэнтр прыехалі мужчынскія каманды ўстаноў, прадпрыемстваў і арганізацый Вілейскага раёна.

Перамагла каманда цэнтра "Надзея". Другое месца занялі прадстаўнікі Людвіноўскага сельсавета. На трэцім месцы каманда "Энергазбыту".

Каманды ўзнагародзілі пераходным кубкам, дыпломамі і грашовымі прэміямі.

Найлепшымі гульцамі турніру прызналі **Аляксандра Гіля**, **Дзмітрыя Брылеўскага**, **Яўгена Маліноўскага** і **Яўгена Бабкевіча**.

Памятным прызам адзначылі ветэрана каманды цэнтра "Надзея" **Уладзіміра Аляксеева** (яму ўжо 67 год!). Заўважылі самага актыўнага і адданага заўзятара турніру – **Андрэя Петуха**.

Пра ўсё гэта расказала вядучы спецыяліст па сувязях з грамадскасцю цэнтра "Надзея" **Таццяна Майсак**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### У 26 год пайшоў з жыцця вілейскі актывіст Аляксей Лужынскі

Смутак, што не вымяраецца
нічым.
Хіба толькі дуда ведае
яго глыбіню.
Сяньня яшчэ адзін сышоў
на спачын…
А ці ж толькі я жадаў,
Каб прытрымаўся ён
Ля брамы выраю?!…
Паляцеў насустрач буслам,
За сваёю сьветлай душой…
Запрасіла ў госьці вясна
Небам падзяліцца з табой.

*Алесь.*

Ведаў яго як цудоўнага, шчырага, добразычлівага, вельмі інтэлігентнага, адукаванага і таленавітага маладога чалавека. За такі маленечкі, наканаваны яму Богам, адрэзак жыцця ён зрабіў вельмі шмат у сваёй краязнаўчай дзейнасці. Гэта быў сапраўдны адраджэнец-практык усяго беларускага. Ён добраахвотна укладаў усю сваю душу і сэрца ў краязнаўства і нагогул ў грамадскую дзейнасць. Аляксей проста быў прасякнуты наскрозь беларушчынай і таму па праву заслугоўвае звання патрыёта бацькаўшчыны. Ён пакінуў вельмі добрую памяць аб сабе, і памяць гэта зберажэцца ў нашых сэрцах. Я вельмі, вельмі шкадую, што не здолеў прыехаць, каб правесці ў апошні зямны шлях гэтага цудоўнага чалавека. Прашу за гэта прабачэнне і выказваю самыя шчырыя спачуванні сям'і, родным і блізкім Аляксея. ***Алесь Раткевіч.***

### У фермах на паперы сучаснае абсталяванне, а насамрэч кароў дояць у звычайныя вёдры

Прачытала – і нешта зусім сумна стала… Атрымліваецца, што амаль нічога і не змянілася з савецкага часу – тады таксама прыпіскамі займаліся…Куды ідзём, людзі?.. ***Эва.***

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Вучань ведзьмака, альбо Бітва чарадзеяў**" (казка-страшылка), *Сяргей Бялоў*
25 сакавіка, серада, – у 11:00

"**Кошкі-Мышкі**" (казка-гульня па матывах п'есы Аркадзя Хайта "Дзень нараджэння ката Леапольда")
27 сакавіка, пятніца, – у 11:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*
***ДА МІЖНАРОДНАГА ЖАНОЧАГА ДНЯ***

"**Банкет**" (сентыментальная камедыя), *Ніл Сайман*
7 сакавіка, субота, – у 19:00

"**Старая Зайчыха**" (меладрама), Мікалай Каляда
10 сакавіка, аўторак, у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Памяць, за сабой пакліч…**" (музычна-драматычны спектакль)
11 сакавіка, серада, – у 14:30

"**Камедыя**" (камедыя ў 2-х дзеях), Уладзімір Рудаў
13 сакавіка, пятніца, – у 19:00

"**На другі дзень Сёмухі**" (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы) *Юры Вута*
17 сакавіка, аўторак, – у 19:00

"**Месье з рагамі, мадам з вусамі**" (вадэвільная гісторыя у 2-х частках) *Марсэль Берк'е-Мерыньe, Анатоль Курбскі*
18 сакавіка, серада, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Памяць, за сабой пакліч…**" (музычна-драматычны спектакль)
19 сакавіка, чацвер, – у 19:00

"**№**13" (камедыя ў 2-х дзеях), Рэй Куні
31 сакавіка, аўторак, – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).

E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/
УНП 600066659

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | | | | | | 4 | | 3 |
| | 4 | 3 | | 9 | 8 | | | 5 |
| 8 | 5 | | 4 | | | | | |
| | | | | | 1 | | | |
| 1 | 8 | | | | | | 6 | 4 |
| | | | 6 | | | | | |
| | | | | | 4 | | 7 | 8 |
| 4 | | | 5 | 1 | | 3 | 2 | |
| 9 | | 7 | | | | | | 1 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## ● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі "**12 месяцаў. Новая казка**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
6 сакавіка – у 17:00
7 сакавіка – у 15:00
8 сакавіка – у 12:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Камедыя "**Ёлкі махнатыя**", (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
7 сакавіка – у 13:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Гістарычная ваенная драма "Батальён" (Расія, 2014)
7, 11 сакавіка – у 17:00
8 сакавіка – у 14:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыйная меладрама, крымінал "**Фокус**" (ЗША, 2015, з 16 год)
6 сакавіка – у 21:30
9 сакавіка – у 18:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, трылер "**Робат па імені Чапі**", (ЗША, Мексіка, 2014, з 16 год)
6, 8, 12 сакавіка – у 19:00 (цана білета: 45 000 рублёў)
7 сакавіка – у 22:00 (цана білета: 50 000 рублёў)
9 сакавіка – у 21:00
10 сакавіка – у 18:30
11 сакавіка – у 21:30 (цана білета: 45 000 рублёў)

Прэм'ера! Драма "**Духless 2**" (Расія, 2015, з 16 год)
7 сакавіка – у 19:30
8 сакавіка – у 16:30; 21:30
10 сакавіка – у 21:00
11 сакавіка – у 19:20
12 сакавіка – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Фэнтэзі, прыгоды "**Папялушка**" (ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
12 сакавіка – у 17:00
Цана білета: 25 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Любімчыкі ў пошуках вясёлкі**" (Іспанія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
7, 8 сакавіка – у 14:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Сямейны "**Дзённік мамы першакласніка**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
6 сакавіка – у 16:30 (цана білета: 15 000 рублёў)
7 сакавіка – у 16:30
8 сакавіка – у 16:00 (20 000 рублёў)

Моладзевыя вострасюжэтныя прыгоды "**Схватка**" (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
10 сакавіка – в 19:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя, прыгоды "**Дзень дурня**" (Расія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
8 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Крымінал "**Ровер**" (Аўстралія, 2013, з 16 год)
6 сакавіка – у 21:00
7 сакавіка – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Фэнтэзі "**Ваўкі**" (Францыя, 2013, з 16 год)
6, 8 сакавіка – у 18:30
7 сакавіка – у 21:00
9 сакавіка – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Меладрама "**Прышпіліце рамяні**" (Італія, 2014, з 16 год)
10 сакавіка – у 21:30
11 сакавіка – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Гісторыка-прыгодніцкі "**Дзяржаўная мяжа. Афганскі капкан. Фільм дзясяты**" (Беларусь, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
12 сакавіка – у 18:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя, крымінал "**Воўк з Уол-стрыт**" (ЗША, 2013, з 18 год)
11 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**Хоць раз у жыцці**" (ЗША, 2013)
12 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў



Фота kinopoisk.ru.

**Кадр з фільма "Хоць раз у жыцці".**

Тэл. : **8(0176) 77-15-92**, **77-06-30.**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Трылер "**Пабудзь у маёй скуры**" (Вялікабрытанія, з 16 год)
6 сакавіка – у 18:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Камедыя "**Воўк з Уол-Стрыт**" (ЗША, з 18 год)
6 сакавіка – у 20:30
8 сакавіка – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Гара самацветаў**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
7, 8 сакавіка – у 14:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Прыгоды "**Схватка**" (Беларусь, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
7 сакавіка – у 16:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Меладрама "**Прышпіліце рамяні**" (Італія, з 16 год)
7 сакавіка – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Драма "**Трэба жыць**" (Беларусь, з 16 год)
8 сакавіка – у 16:00
12 сакавіка – у 18:30
Цана білета – 20 000 рублёў

Фэнтэзі "**Ваўкі**" (Францыя, Канада, з 16 год)
11 сакавіка – у 18:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Камедыя "**Горка 2**" (Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
11 сакавіка – у 20:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Прыгоды "**Дзяржаўная граніца. Афганская пастка**" (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
12 сакавіка – у 20:00
Цана білета – 20 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Баявік, трылер "**Робат па імені Чапі**" (2D, ЗША, Мексіка, з 16 год)
6 сакавіка – у 18:00
7, 8 сакавіка – у 21:00
11, 12 сакавіка – у 18:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Драма "**Духless 2**" (2D, Расія, з 18 год)
6 сакавіка – у 20:30
7 сакавіка – у 19:00
12 сакавіка – у 20:30
Цана білета – 45 000 рублёў

Фэнтэзі "12 месяцаў. Новая казка" (2D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
7 сакавіка – у 13:00
8 сакавіка – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Камедыя, сямейны "Ёлкі махнатыя" (2D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
7 сакавіка – у 15.00
Цана білета – 20 000 рублёў

Трылер "**Рабаванне па-амерыканску**" (2D, ЗША, Расія, з 16 год)
8 сакавіка – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Меладрама, камедыя, крымінал "**Фокус**" (2D, ЗША, з 16 год)
7, 8 сакавіка – у 19:00
11 сакавіка – у 20:30
Цана білета – 45 000 рублёў

Камедыя, сямейны "**Прыгоды Падынгтона**" (2D, Францыя, Вялікабрытанія, без узроставых абмежаванняў)
8 сакавіка – у 13:00

Тэл.: **8(01771) 5-68-59.**

## ● ГАРАСКОП

### 6-12 САКАВІКА

**Авен.** Гэты перыяд мае ўсе шанцы аказацца прыступкай на шляху да вашай запаветнай мары. Цяпер усё, пасеянае раней, абяцае даць усходы. Так што тых, хто доўга ішоў да сваёй мары, могуць чакаць прыемныя сюрпрызы.

**Цялец.** Стаўце перад сабой мэты і ідзіце насустрач ім, хоць і невялікімі крокамі, але ўпэўненымі. І ніколі не кажыце сабе не.

**Блізняты.** Калі ў вас не ляжыць душа да якога-небудзь чалавека ці нейкай працы, не варта губляць на іх свой час.

**Рак.** Вучыцеся заўсёды, кожны дзень. Давядзецца штосьці новае пра розныя рэчы. Вучоба трымае мозг у тонусе, нават у сталым узросце.

**Леў.** Маленькія рэчы таксама важныя. Усе мы чакаем вялікіх перамог і дасягненняў і забываем пра тое, што яны складаюцца з дробных і бывае нават незаўважаных крокаў. Цаніце гэтыя крокі.

**Дзева.** Калі вам захочацца новых уражанняў, то можна адправіцца ў якуюнебудзь паездку і адчуць там свята. Толькі не сядзіце ўвесь час у сацыяльных сетках.

**Шалі.** Сілкуйце сваё сэрца, нутро любоўю кожны дзень, і гэта будзе лепшымі лекамі ад хвароб, стрэсаў. Больш бывайце на прыродзе і любуйцеся яе прыгажосцю. Навучыцеся бачыць у кожным чалавеку толькі добрае.

**Скарпіён.** Перыяд парадуе вас добрай атмасферай у сям'і і ва ўласных адносінах. Зоркі абяцаюць мора рамантыкі і радасных падзей. Пастарайцеся з удзячнасцю прыняць усе старанні блізкіх, не чакаючы ад іх нічога большага.

**Стралец.** Ідэалы сумныя. Нашы адрозненні, асаблівасці, фобіі і недахопы – гэта тое, што робіць нас унікальнымі. Памятайце пра гэта.

**Казярог.** Калі вы зайшлі ў тупік, то не бойцеся папрасіць дапамогі: магчыма, досвед іншых людзей ці кампетэнтная парада прыйдуцца дарэчы.

**Вадалей.** Вас ужо даўно не задавальняе цяперашні стан рэчаў. Самы час накіраваць сілы на тое, каб змяніць уласны лад жыцця ў значна лепшы бок. Адзінокіх чакае лёсавызначальная сустрэча.

**Рыбы.** З адказнасцю пастаўцеся да свайго здароўя, бо месяц да дня нараджэння і месяц пасля лічыцца самым небяспечным перыядам. Памятайце пра гэта.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, пасылаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **Rh.by**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

## НАДВОР'Е

**7 сакавіка, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -1 / +1 | | -1 / +2 | | +1 / +3 | | +3 / +4 | |
| | 753 | ↑ 2 | 753 | ↗ 3 | 751 | ↗ 4 | 750 | ↗ 3 |
| Вільня | 0 / 0 | | 0 / +1 | | +3 / +3 | | +3 / +5 | |
| | 762 | → 2 | 760 | ↗ 4 | 758 | ↗ 5 | 757 | ↗ 5 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, заход па Маладзечне

Усход 7.46
Захад 19.00
Даўжыня дня 11.14

Усход 21.04
Захад 8.11
Квадра 3

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | 0 / +2 | 760 | ↗ 2 |
| Гродна | 0 / +2 | 761 | ↗ 4 |
| Мінск | -1 / +2 | 753 | ↗ 3 |
| Магілёў | -1 / +2 | 759 | → 2 |
| Брэст | -1 / +4 | 761 | ↗ 2 |
| Гомель | -1 / +2 | 764 | ↘ 3 |

## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**Валожын**

- Мінімальная тэмпература -12,7 °С у 2006 годзе
- Максімальная тэмпература +9,9 °С у 1995 годзе
- Максімальная колькасць ападкаў 11,4 мм у 1983 годзе

Назіранні за 36 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **У музеі ў Маладзечне ёсць унікальны экспанат – ланцужок для гадзінніка з валасоў. Калі экспанат трапіў у фонды музея, дзе плялі падобныя ланцужкі і для чаго.**



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Чаго хоча жанчына?



**Дзяніс Цадко, зваршчык:**

– Радасці, каб мужчыны часцей дарылі кветкі, падарункаў, любімага мужа побач.



**Аляксей Налівайка, навучэнец:**

– Напэўна, жанчыны і самі не ведаюць, чаго дакладна хочуць. У іх вельмі хутка змяняецца настрой і планы. Сам я пакуль таксама не ведаю, што падарыць на 8 Сакавіка.



**Іна Сліжык, інжынер:**

– Любая жанчына заўсёды дакладна ведае, чаго хоча. Але самае галоўнае для жанчыны – гэта сям'я, дастатак у ёй. І абавязкова дзіця. Толькі дзеці дапамагаюць жанчыне зацвердзіцца і адчуць сябе жанчынай.



**Вікторыя Зянкевіч, навучэнка:**

– Найперш жанчыне, дзяўчыне патрэбная ўвага з боку мужчын. А на свята я чакаю нечага нечаканага, вельмі люблю сюрпрызы.



**Ніна Казлоўская, гаспадыня:**

– Найперш, шчасця для дзяцей. Нездарма гавораць, калі шчаслівыя дзеці, шчаслівыя і іх бацькі. Жанчына цэніць шчасце дзяцей больш за ўласнае. На 8 Сакавіка найлепшым падарункам для мяне будзе, калі прыедзе ўнук Кірылка.



**Аляксей Грышкевіч, навучэнец:**

– Любая жанчына хоча ўзаемнага кахання. Над падарункамі на 8 Сакавіка я пакуль яшчэ думаю, заўсёды дару кветкі.



**Уладзімір Мандрык, навучэнец:**

– Жанчынам хочацца кахання і любові. Я заўсёды з пільнасцю падбіраю падарункі для сваіх блізкіх на 8 Сакавіка. Дару кветкі і нечаканы падарунак. Звычайна мае блізкія вельмі радуюцца гэтаму.

**Галіна СІНІЦА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 10 (1036) 6.03.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 292. Падпісана ў друк у 9.00 5.03.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.